


Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

27 студзеня 2017 года №4 (1135)



# У аварыі загінуў мой лепшы сябар. Я быў у той машыне



## Следчы камітэт назваў прычыны аварыі, у якой загінуў мадэратар рацыі "Без тармазоў" Цімафей Лісоўскі

25 студзеня Цімафею Лісоўскаму (справа) споўнілася б усяго 22 гады. Праз паўгода пасля трагедыі яго сябар Яўген Стасілевіч расказвае пра той страшны дзень.



старонка 4

Фота з архіва "РГ".

# Як вучні рэгіёна праявілі сябе на абласных прадметных алімпіядах

**АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ**

**У адзін час, ад 9 да 13 снежня, на Міншчыне і Гродзеншчыне адбыўся трэці этап рэспубліканскай алімпіяды па вучэбных прадметах.**

Вілейшчыну прадстаўлялі 35 вучняў з 11 школ. Іх вынік – 14 дыпломаў. Найлепшымі віляйчане былі ў матэматыцы і беларускай мове і літаратуры.

За іх атрымалі дыпломы першай ступені. Дыпломаў другой ступені – чатыры, трэцяй – сем.

Побач з гарадскімі гімназіяй “Логас”, гімназіяй №2, школамі №3 і №5 вызначыліся дзве сельскія школы. Дыпломы другой ступені ў вучняў з Людвінова і Даўгінава.

Найбольш удзельнікаў было з Маладзечна – 91. Яны зарабілі 48 дыпломаў.

Вынікова паўдзельнічалі каманды з гімназій №№10, 7, 6, 3, гімназіі-каледжа мастацтваў, школы №14.

Асабліва “ўраджайнымі” аказаліся нямецкая мова, геаграфія, хімія, руская мова і літаратура, матэматыка, інфарматыка.

34 навучэнцы Смаргоні прывезлі 15 дыпломаў. Яшчэ пяць атрымалі граматы.

Каманду Ашмяншчыны прадставілі 15 вучняў. У родны горад яны прывезлі шэсць дыпломаў. Вучні з Астраўца ўзялі сем дыпломаў і дзве граматы.

| Раён | Колькасць удзельнікаў | Колькасць дыпломаў |
|---|---|---|
| Астравец | 18 | 7 |
| Ашмяны | 15 | 6 |
| Вілейка | 35 | 14 |
| Маладзечна | 91 | 48 |
| Смаргонь | 34 | 20 |

### Любоў Агарова: аднаго ўрока беларускай мовы на тыдзень мне мала

Вучаніца вілейскай школы №3 **Люба Агарова** стала другой у Мінскай вобласці сярод вучняў 11 класаў па беларускай мове і літаратуры.

– Яшчэ з трэцяга класа беларуская мова давалася мне лягчэй за іншыя прадметы, – успамінае Люба. – Адразу была проста зацікаўленасць, потым – жаданне дасканала авалодаць роднай мовай.

Дзяўчына лічыць, што немагчыма добра ведаць мову, калі размаўляеш на ёй 45 хвілін на тыдзень. Любоў да беларускай мовы ў дзяўчыны ад сям’і і настаўніцы **Таццяны Бруевай**. З ёй немагчыма не любіць беларускую мову, упэўненая дзяўчына.



**А цяпер паспрабуйце выканаць алімпіядныя заданні самі**

**Заданне для шостага класа**

Устаўце ў прыказкі назвы народных святаў.

*Прыйшоў ......... – апаў лісток;*

*прыйшоў ........ – апалі два.*

*Прыйшлі ......... – зачыняй у хлеў каровы.*

**Заданне для дзявятага класа**

Знайдзіце лішні элемент у пераліку і растлумачце свой выбар:

*Экспазіцыя, развязка, лірызм, завязка, эпізод, кульмінацыя.*

**Заданне для дзясятага класа**

Што б ты прапанаваў(ла) апрануць беларускай жанчыне. Падкрэслі.

*Андарак, бекеша, бравэрка, бурнос, вэлюм, магерка, намітка, паддзёўка, паланцін, чуйка.*

**Любоў да мовы ў Любові ад бацькоў і настаўніцы. Фота забяспечанае Любоўю АГАРОВАЙ.**

Кожны з этапаў алімпіяды быў па-свойму складаны, прызнаецца Люба. А самым нечаканым ва ўсёй алімпіядзе стаў… вынік.

### Таццяна Бруева: заняткі не перапыняем ні на канікулы, ні на выхадныя

– Заняткі з алімпіяднікамі – гэта адзін з самых любімых накірункаў маёй працы, – кажа настаўніца беларускай мовы і літаратуры вілейскай школы №3 **Таццяна Бруева**. Гэта яна рыхтавала Любу да алімпіяды.

Досвед тут у настаўніцы вялікі. Першая перамога была ў 2004 годзе. З таго часу яе вучаніцы прывезлі 18 дыпломаў з вобласці і 7 з рэспублікі.

Найбольш складана, кажа Таццяна, “дабіцца” дыплома ў 11 класе. Гэта звязана з экзаменамі, паступленнем.

Пачынаюць рыхтаваца яшчэ з пятага класа. Заняткі не перапыняем ні на канікулы, ні на выхадныя, расказвае настаўніца.

Сёлета на алімпіядзе, па словах Таццяны, усё было, як і раней: водгук на паэтычны твор – 30 балаў, комплексная работа – 50 балаў, вуснае выказванне – 20 балаў.

– Мая Люба ”зарабіла” 87 балаў і заняла другое месца. Ад першага месца яе аддзяліў адзін бал.

Любу вызваляць ад школьнага экзамену па беларускай мове з выстаўленнем адзнакі “дзесяць”, а наперадзе – рэспубліканскі тур алімпіяды.

Вуснае выказванне, па назіраннях настаўніцы, самы “хвалюючы” тур абласнога этапу. Нехта з лёгкай рукі будзе расказваць пра мову, Радзіму, маму, хлеб. А некаму пашчасціць выцягнуць тэму “Сабака – самы шчыры сябар”.

У гэтым годзе было такое заданне: па малюнках трэба было пазнаць сельскагаспадарчую пабудову: адрыну, паветку, істопку, лазню, гумно.

У час падрыхтоўкі настаўніца з Любай працавалі не толькі з падручнікамі і зборнікамі алімпіядных заданняў, але і з беларускамоўнымі часопісамі, слоўнікамі. Алімпіяда не толькі па мове, але і па літаратуры. Трэба ведаць усе псеўдонімы, жанры, вершаваныя памеры, умець устаўляць прапушчаныя словы ў вершы, па радках і манеры пазнаваць імя пісьменніка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Мужчын, якія зацікавіліся прапановай, адразу запісвалі на працу.

# Адсутнасць судзімасці і праверка ў КДБ: віляйчан набіралі на працу

ВІЛЕЙКА

**Вы не можаце знайсці працу па месцы жыхарства? Вырашыць гэту праблему прапанавалі ў Вілейцы на кірмашы вакансій.**

Сюды, у Вілейскі райвыканкам, супрацоўнікі Цэнтра занятасці насельніцтва запрасілі прадстаўніка прадпрыемства "Энергабуд" **Наталлю Кулак**. Яна запрашала жыхароў Вілейшчыны працаваць на будоўлі Беларускай атамнай электрастанцыі ў Астраўцы. Тут патрэбныя арматуршчыкі, бетоншчыкі, муляры, тынкоўшчыкі, электрагазазваршчыкі, падсобныя рабочыя.

## "Судзімых не бяром" – і зала на чвэрць апусцела

Спачатку зацікаўленых было шмат. У зале былі пераважна мужчыны як маладыя, так і сталага веку.

Наталля Кулак расказала пра ўмовы, пры якіх можна працаваць у Астраўцы.

– Першая ўмова – гэта адсутнасць крымінальнай судзімасці, – пачала жанчына. – Або з апошняй пагашанай судзімасці павінна прайсці не менш за 10 гадоў.

**Пасля гэтых слоў прыкладна чвэрць з усіх прысутных мужчын падняліся са сваіх месцаў і выйшлі за дзверы. А для астатніх прагучалі дзве наступныя ўмовы.**

У мужчын, якія жадаюць працаваць, павінны быць дакумент, які пацвярджае іх будаўнічую спецыяльнасць. Калі ж дакумента няма, а ёсць запіс у працоўнай кніжцы, тады змогуць узяць толькі падсобным рабочым.

І нарэшце, трэцяя ўмова. Цяпер усіх ахвотных працаваць на будоўлі станцыі будзе правяраць КДБ. Такі Указ падпісалі напрыканцы мінулага года. Калі пасля праверкі органы КДБ даюць станоўчы адказ, ахвотнага возьмуць на працу. Праверка доўжыцца на працягу 15 дзён.

Пасля Наталля Кулак расказала пра іншыя ўмовы. Тыя, якія прапаноўваюць работнікам на працы. Заробак, па яе словах, у будаўнікоў тут ад 500 рублёў. Падсобныя рабочыя атрымліваюць 350-400 рублёў. Жыллём усіх забяспечваюць. "Камандзіровачныя" і "вахтавыя" не плацяць. Харчуюцца работнікі за свой кошт.

Будаўнікі працуюць вахтавым метадам па 15 дзён. Калі набяруць больш за 30 чалавек, на працу ў Астравец работнікаў з Вілейкі будзе вазіць аўтобус. У іншых гарадах такая практыка ёсць.

**Жанчын на працу ў Астравец не бяруць. Для іх няма адпаведнага жылля.**

Дадзеныя мужчын, якія зацікавіліся прапановай, Наталля Кулак адразу запісала, каб накіраваць іх у КДБ. Запісваючы, у сталых мужчын пыталася пра стан здароўя. Бо праца, па яе словах, там нялёгкая.

Тым, каго не задаволіла прапанова Наталлі Кулак, супрацоўнікі вілейскага Цэнтра занятасці прапаноўвалі павучыцца на розных курсах. Ёсць магчымасць атрымаць спецыяльнасць адміністратара, бухгалтара, майстра па манікюры і педыкюры, цырульніка, аператара кацельні, індывідуальнага прадпрымальніка, маляра, электрагазазваршчыка.

## А якія вакансіі прапануюць у рэгіёнах

Згодна з дадзенымі Міністэрства працы, на Вілейшчыне патрэбныя спецыялісты ў сельскай гаспадарцы: аграномы, ветэрынарныя дактары, даяркі, трактарысты, заатэхнікі. Прапануюць заробак ад 460 да 800 рублёў.

На Валожыншчыне таксама не хапае спецыялістаў у гаспадарках раёна. Пабач з даяркамі і заатэхнікамі шукаюць галоўных інжынераў, галоўных ветдактароў і бухгалтараў. Заробак – ад 510 да 1000 рублёў.

У Маладзечне Мінпрацы прапануе менш вакансій. Гэта энергетык, ветфельчар і эканаміст па працы з заробкам 500-700 рублёў.

На Смаргоншчыне шукаюць трактарыстаў і электрагазазваршчыкаў. Цана пытання – 460-700 рублёў.

Амаль ва ўсіх вакансіях у гаспадарках рэгіёна пазначаная наяўнасць жылля.

Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 19.01 | 26.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9439 | **1,9286** |
| Еўра | 2,0778 | **2,0676** |
| Злоты, 10 | 4,7615 | **4,7517** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2866 | **3,2612** |
| Грыўня, 100 | 7,0752 | **7,0859** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 11.01 і 18.01** | | |
| Еўра | 2.0600/2.0850 | **2.0600/2.0800** |
| Долар ЗША | 1.9400/1.9600 | **1.9200/1.9360** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 18.01 | 25.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,99 | **15,99** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,13 | **7,13** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,26 | **3,29** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,18** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **12,90** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,50 | **1,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,35 | **2,35** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 2,00 | **2,00** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,50 | **4,50** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,70 | **1,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,69 | **0,69** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,39** |
| Морква, 1 кг | 0,49 | **0,58** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 0,99 | **1,80** |
| Лімоны, 1 кг | 3,69 | **3,49** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,49 | **2,69** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,89 | **2,75** |
| Гранаты, 1 кг | 3,49 | **3,49** |
| Ківі, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,48 | **0,49** |
| Памідоры, 1 кг | 2,99 | **3,25** |
| Агуркі, 1 кг | 4,99 | **4,95** |
| Перац, 1 кг | 5,99 | **6,90** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,45 | **2,49** |
| Вінаград, 1 кг | 3,35 | **3,80** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,19 | **1,35** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,95 | **2,90** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,35 | **0,35** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 6,00 | **6,00** |

## Настаўнік скраў у вучня ў Смаргонскім раёне гадзіннік за 200 долараў

МАЛАДЗЕЧНА

Выпадак быў у канцы мінулага тыдня на ўроку фізкультуры.

Дзеці займаліся спортам. Адзін з настаўнікаў папрасіў пакінуць каштоўныя рэчы на лаўцы. Вучні так і зрабілі, у тым ліку і 11-класнік паклаў туды свой гадзіннік Casio. Падчас урока гэты ж настаўнік фізкультуры без ведама вучняў пераклаў рэчы ў інвентарны пакой, дзе былі і яго калегі.

Пасля заняткаў дзеці пайшлі за сваімі рэчамі. А дарагога гадзінніка там ужо не было.

На месца прыехаў бацька гаспадара гадзінніка. Разам з міліцыянерамі высветлілі, што яго скраў адзін з настаўнікаў. Хаця спачатку думалі, што да крадзяжу могуць мець дачыненне дзеці. Настаўнік хутка сышоў са школы, і знайшлі яго разам з гадзіннікам толькі на наступны дзень.

Міліцыянеры вярнулі гадзіннік гаспадару. Узбуджылі крымінальную справу па артыкуле "Крадзеж".

**Паводле uvd.grodno.by.**

## Шукаюць маладзечанца, які знік у канцы мінулага года

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі РАУС шукае **Ігара Леанардавіча Менцюка** (на фота), які ад 28 снежня не выходзіць на сувязь. Месцазнаходжанне яго невядомае.

Мужчына з 1967 года нараджэння. Жыве на вуліцы Таўлая ў доме №1.



Прыкметы: на выгляд 49 гадоў, рост каля 175 сантыметраў, хударлявы, з авальным смуглявым тварам, прамымі бровамі. Нос паламаны і звернуты на правы бок, прамыя, з сівізной валасы.

Быў апрануты ў цёмную вязаную шапку, чорную куртку да калена, чорныя штаны і шэры світар, чорныя чаравікі.

Маладзечанскі РАУС просіць грамадзян, якія ведаюць што-небудзь пра Ігара Леанардавіча Менцюка, паведаміць па тэлефонах: **8 (0176) 749683, 771656, 8 (0295) 464044 або 102.**

**Маладзечанскі РАУС.**

ТЭМА НУМАРА

# Яны былі ў машыне, у якой загінулі двое

## Праз паўгода пасля гучнай трагедыі на "Лініі Сталіна" пра той дзень расказваюць сябры загінулых

МАЛАДЗЕЧНА

**Паўгода таму здарылася страшная аварыя, у якой загінуў мадэратар рацыі "Без тармазоў" Цімафей Лісоўскі і Паліна Мусатава, дзяўчынка, якая разам з Цімафеем вярталася з летніка.**



Архіў "РГ".



Фота забяспечана Яўгенам Стасілевічам.

**Аварыя здарылася амаль паўгода таму, а на старонцы ў Яўгена (злева) ў сацыяльнай сетцы да гэтага часу стаіць фота, на якім ён разам з Цімафеем.**

Следчы камітэт завяршыў расследаванне той аварыі і вынес рашэнне: Цімафей заснуў за рулём.

На мінулым тыдні мы сустрэліся з сябрамі Цімафея і Паліны – **Яўгенам і Янай Стасілевічамі**, якія ў той дзень знаходзіліся ў той жа машыне. А таксама з іх старэйшым братам – **Андрэем**. Ён быў адным з першых, хто прыехаў на месца здарэння.

### Я сеў на ўзбочыне і завыў уголас

У той панядзелак бацьку Яўгена, Яны і Андрэя патэлефанаваў сваяк, які ехаў па трасе Мінск-Маладзечна і сказаў, што бачыў: у аварыю трапіла знаёмая яму машына.

– Мы сталі званіць на тэлефон Жэню. Ён быў недаступны. Сталі званіць Яне – трубку зняў нейкі мужчына. Мы з бацькам тут жа паехалі туды. Ведаеце, гэта была сама доўгая дарога ў маім жыцці. Бо ніхто толкам не мог сказаць, у якім стане мае брат з сястрой, хто там загінуў.

Калі Андрэй з бацькам прыехалі туды, "хуткая" ўжо была на месцы, Жэню і Яне аказвалі дапамогу. У Яны былі пераламаныя абедзве нагі, Жэня быў увесь у драпінах, парэзах, сіняках. Ад удару гітара, якую ён трымаў у руках, рассыпалася на дробныя аскепкі. Гэтымі аскепкамі Жэня параніў увесь твар.

– Я, – працягвае Андрэй, – пасля ўбачыў, што на камізэльцы Жэні, у якую ён быў апрануты тады, след ад рамяня бяспекі пакінуў апёк. Такой сілы быў удар.

Але гэта было пазней, а ў той момант Андрэй запомніў, як пачаў збіраць рэчы, сумкі, якія былі раскіданыя па ўсёй трасе.

– Я падумаў тады: не добра, машыны ездзяць жа, раструшчаць усе рэчы. Пачаў збіраць, а потым, калі да мяне дайшло, што на асфальце ляжыць мёртвая дзяўчынка, што за рулём так і застаўся сядзець ужо не жывы Цімафей, я сеў на ўзбочыне і завыў у голас.

Самі Яна і Жэня момант аварыі не памятаюць.

– Апошняе, што я помню, як праехалі "Лінію Сталіна". А потым – толькі рэанімацыю, – кажа Яўген.

### Цімафей мяне называў Пушок

На старонцы Яўгена ў сацыяльнай сетцы да гэтага часу стаіць фотаздымак з лепшым сябрам Цімафеем.

– 25 студзеня Цімафею споўнілася б 22 гады. Збіраемся да яго на магілкі паехаць. А я кожны дзень яго ўспамінаю, а на магілках так і не быў.

Сябравалі хлопцы з самага дзяцінства.

– З яго я браў прыклад, – расказвае Жэня, – ён хаця і малодшы за мяне, але больш шустры, даросны. Цімафей мяне Пушком называў, бо ў мяне характар мяккі. Такіх сяброў, як Цімафей, больш не будзе.

Мяне бацька Цімафея заўсёды прасіў стрымліваць яго, бо ён быў вельмі актыўны. А калі на пахаванні розныя людзі гаварылі, што зрабіў для іх Цімафей, я думаю, тата Цімафея вельмі ім ганарыўся.

– А я Цімафея запомню, як чалавека, які вельмі гучна спявае, – далучаецца Яна. – Помню, мы з сяброўкай былі на вуліцы, вокны ў нас былі зачыненыя, а Цімафей у пакоі іграў на фартэпіяна і вельмі гучна спяваў, так, што было чутно на вуліцы.

### Прычына аварыі – стомленасць

Афіцыйны прадстаўнік Следчага Камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог** расказала: следства прыйшло да высновы, што аварыя адбылася, бо Цімафей кіраваў машынай у стомленым стане.

– Падчас расследавання прычын аварыі былі праведзеныя розныя экспертызы. Падрабязна вывучалася і месца здарэння, і тэхнічны стан аўтамабіляў, і ці была магчымасць у вадзіцеля другой машыны зрэагаваць на дарожную абстаноўку і прадухіліць аварыю. Праводзілася і судова-медыцынская экспертыза. Усё паказала на тое, што вадзіцель парушыў правілы дарожнага руху і выехаў на сустрэчную паласу з-за таго, што кіраваў аўтамабілем у стомленым стане.

### "Руль зламаўся аб Цімафея"

Сябры ўспамінаюць, што апошнія дні Цімафей адчуваў сябе вельмі кепска, таму не выключалі і таго, што аварыя магла здарыцца з-за сардэчнага прыступу.

– Напярэдадні здарэння, за тыдзень да таго, у Цімафея на вачах патануў яго сябар. Цімафей спрабаваў яго выратаваць, але не змог.

– Таму на ім твару апошнія дні не было, – расказвае Яўген. – Ён моцна перажываў.

У дзень аварыі кампанія вярталася з палатачнага лагера.

У машыне спала толькі дзяўчынка Паліна. Яна загінула імгненна.

**Цімафей жа пасля аварыі яшчэ ўздыхаў.**

– Я адзін з першых быў, хто падыходзіў да машыны, – кажа Андрэй, – у Цімафея на каленях ляжаў тэлефон, дык яго ўціснула ў метал машыны, там ён і застаўся. Я так зразумеў, што і руль зламаўся ад удару аб Цімафея. Сумка, помню, стаяла пад крэслам, дык яе ўціснула так, што сядушку давялося здымаць. Кола левае пярэдняе было аж пад заднім сядзеннем.

– Цімафей на работу ў той дзень спяшаўся, – кажа Яна. – Яму трэба было ў восем раніцы быць на працы. А я напярэдадні гэтага здарэння сфатаграфавалася з Палінай. І фотку падпісала: "А заўтра, хто яго ведае, што будзе заўтра".

– А ў мяне 30 ліпеня быў дзень нараджэння, – кажа Яўген. – Цяпер іх, відаць, у мяне два. Ударылася б машына крыху правей…

– Я цяпер дакладна ведаю, што трэба кожны дзень жыцця цаніць, – кажа Яна. – Хто яго ведае, што будзе заўтра.

**Наталля ТУР.**

# Дададуць крыху больш за рубель

## Ад лютага вырасце дапамога на дзяцей да трох гадоў. Што на яе можна купіць

**Павышэнне будзе нязначнае. На першае дзіця – 1 рубель 12 капеек, на другое і наступных – 1 рубель 28 капеек, на дзіця-інваліда – 1 рубель 44 капейкі.**

**Памеры дапамогі па доглядзе за дзіцем да трох гадоў**

| Від дапамогі | Да 1 лютага | Ад 1 лютага |
|---|---|---|
| На першае дзіця | 260 рублёў 26 капеек | 261 рубель 38 капеек |
| На другое і наступных дзяцей | 297 рублёў 44 капейкі | 298 рублёў 72 капейкі |
| На дзіця-інваліда | 334 рублі 62 капейкі | 336 рублёў 6 капеек |

**Тавары па доглядзе за нованароджанымі**

| Тавар | Цана, рублёў |
|---|---|
| Мыла дзіцячае (цана залежыць ад колькасці грамаў: мінімальная – 70, максімальная – 100 грамаў) | 0,60 – 1,11 |
| Прысыпка, 30 грамаў | 0,85 – 1,12 |
| Сурвэткі вільготныя дзіцячыя | 0,49 – 1,18 |
| Бутэлечка шкляная для дзіцячых малочных прадуктаў | 0,46 – 0,54 |
| Ватныя палачкі | 0,48 – 1,12 |
| Пустышка | 0,43 – 1,12 |
| Дзіцячы крэм, 30 мл | 0,69 |

**Прадукты**

| Тавар | Цана, рублёў |
|---|---|
| Сок з садавіны (гародніны), 200 мл | 0,61 – 0,96 |
| Пюрэ, 100 мл | 1,02 |
| Вада пітная, 0,33 л | 0,98 – 1,11 |
| Тварог, 100 г | 0,74 |
| Ёгурт, 100 г | 0,39 – 0,69 |


Фота mchildren.ru

З 1 лютага дапамога на першае дзіця вырасце на 1 рубель 12 капеек.

З 1 лютага зменіцца і памер аднаразовых выплат у сувязі з нараджэннем дзіцяці. Ён залежыць ад бюджэту пражытачнага мінімуму, аднак дакладную лічбу на наступны квартал кіраўніцтва яшчэ не назвала.

Нагадаем, што памер дапамогі мяняўся апошні раз летась у лістападзе, тады прыбаўка склала ад сямі да дзесяці рублёў у залежнасці ад колькасці дзяцей у сям'і.

Нягледзячы на тое, што прыбаўка дапамогі па доглядзе за дзіцем падаецца нязначнай. Мы вырашылі скласці спіс тавараў, якія можна купіць на грошы, якія дададуць дэкрэтніцам. Іх аказалася 12.

У любым выпадку, наколькі б ні павялічылася сума дапамогі, гэта хоць і невялічкая, але дапамога сям'і.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Чаму нельга эканоміць на ПВХ-вокнах?

**Замена вокнаў – важны працэс. Каб доўгія гады адчуваць цяпло і камфорт, неабходна адказна аднесціся да выбару. На што трэба звярнуць увагу? Разабрацца нам дапамагла Наталля Курыла, спецыяліст рэспубліканскай кампаніі "Окнаград".**

**– Што часцей за ўсё хвалюе пакупніка?**

– Кліент жадае атрымаць якасны прадукт па найбольш прывабнай цане. Растлумачваем, што кошт прапарцыянальны якасці. Аконная сістэма, каб адпавядаць патрабаванням часу, павінна мець высокія параметры па захаванні цяпла, надзейную фурнітуру, быць экалагічнай. Нашы кліенты набываюць вырабы з цёплых профіляў нямецкай маркі Salamander і аўстрыйскай фурнітуры Maco, мы прапануем энергазберагальны шклопакет. Прадукцыя мае ўсе неабходныя сертыфікаты. А галоўнае – у нас прамысловая вытворчасць, бо і цяпер яшчэ можна сустрэць прадукт нізкай пробы, калі пра СТБ і кантроль якасці не вядзецца гаворка.

**– Як пакупніку даведацца аб тым, што ён мае справу з прафесіяналамі?**

– Той, хто займаецца работай прафесійна, назапашвае досвед гадамі, адладжвае сістэму, удасканальвае сэрвіс, а не змяняе кожны раз сферу сваёй дзейнасці, як толькі нешта не атрымоўваецца. Прафесіянал заўсёды ў першую чаргу выявіць патрэбы кліента. Наш спецыяліст спачатку даведаецца пра памеры акна, параіць мадыфікацыю створак, пракансультуе, які выбраць профіль, удакладніць іншыя важныя дэталі і толькі затым назаве кошт. А некаторыя адразу агучваюць нізкую цану. Вядома, у час заключэння дагавору яна павялічваецца. Або, бывае, прапануецца танны варыянт нязручнага акна з «глухой» створкай, якое пасля складана мыць. Прадугледзець важнае і параіць аптымальны для кліента варыянт – прафесійны падыход!

**– Якія гарантыі павінны даваць аконнікі сваім кліентам?**

– На жаль, бывае, што гарантыі існуюць толькі на словах. Замянілі нумары мабільных тэлефонаў, адрас офісу – і праблем няма. Кампанія "Окнаград" на рынку вокнаў ужо больш за 12 гадоў. Многія нашы кліенты, у тым ліку ў Маладзечне, замаўляюць у нас паўторна і рэкамендуюць кампанію знаёмым. На мантаж і прадукцыю мы даём 5-гадовую гарантыю. 90% праблем з вокнамі бываюць з прычыны непрафесійнага мантажу, а некаторыя нават не згадваюць пра гарантыі на свае работы, што недапушчальна. У постгарантыйны тэрмін мы праводзім сэрвіснае абслугоўванне.

**– Што прапануеце тым, хто хоча зэканоміць?**

– Многія і самі пераканаліся на асабістым досведзе, што добрае танным не бывае. Мы прапануем набыць якасныя вокны ў РАСТЭРМІНОЎКУ 0% на год. Першапачатковы ўнёсак неабавязковы, а першы плацеж можна адкласці да 50 дзён пасля заключэння дамовы! А яшчэ ў гэтым месяцы на кожны 2-гі выраб даецца ЗНІЖКА 50%! Аплата адбываецца за 2 этапы: 35% – пры падпісанні дамовы, 65% – пасля мантажных работ, што вельмі зручна.

Тэлефануйце нам: **8 (0176) 70-60-00, 638-6000 (Vel., МТС)**.

Наш адрас: Маладзечна, **вул. Віленская 12, оф. 7.** Даведайцеся аб паслугах і прадукцыі на афіцыйным сайце www.oknagrad.by.

# "Учынак года-2016" Адам Мальдзіс: Францішак Скарына быў суаўтарам першай еўрапейскай Канстытуцыі

*Працяг. Пачатак у №3.*

**АСТРАВЕЦ**

**Працягваем нашу размову з прафесарам Адамам Мальдзісам.**

– Летась у лістападзе быў у Вільні на канферэнцыі па Скарыну. І прыйшлі да высновы, што ён з'яўляецца самым актыўным суаўтарам першага Статута княства Літоўскага і што не мог не бываць у Астраўцы.

У 1527-1528 гадах Бона Сфорца і кароль Жыгімонт правілі тут, наводзілі парадак. Боне вельмі спадабаліся беларускія лясы. Я ўспомню, што калі быў малы, гасцінец, што вядзе з Вільні праз Шумск, Лошу на Астравец, у метрах 500 ад нашай хаты, зваўся "каралеўскі тракт". Чаму? Калі я ўлез у гэту сітуацыю, то зразумеў, што Францішак Скарына быў адзіный асобай у ВКЛ, хто мог напісаць асноўныя палажэнні і звесці ў адно Статут ВКЛ – першую еўрапейскую Канстытуцыю. Польшча ў гэтым зацікаўленая не была, ім сваю самастойнасць даказваць не было патрэбы, а ВКЛ мусіла, і біскуп Ян, і Скарына гэтага дамагаліся.

Калі ў Скарыны пыталіся, адкуль ён, адказваў, што з Літвы, а па нацыянальнасці русін. А цяперашніх рускіх у той час называлі маскавітамі, і ўся блытаніна зыходзіць з гэтага. Нават Карл Маркс і той разбіраўся, што была Русь Маскоўская і Русь Літоўская, а нашы марксісты чамусьці гэта не ўспрымалі.

**І саромеюцца, што Фёдараў, рускае кнігадрукаванне былі другімі сярод усходніх славян пасля Скарыны.**

Чаму дубы ў Астраўцы, за якія я ўступіўся, каралеўскія, і такіх няма ў іншых мястэчках? З Вільні праз Астравец ішоў каралеўскі шлях. Варняны былі самым блізкім маёнткам для канцлера Гаштальда. Ён звычайна называўся панам на Гераненах, гэта цяперашні Іўеўскі раён, які ўдвая далей. Раптам самому каралю Жыгімонту Старому пішуць просьбу даць у Касіне Вялікай дазвол адкрыць карчму шляхціцу, не яўрэю. Гэта якраз палова дарогі з Вільні. І сам кароль той дазвол падпісваў. Дубамі вакол было абсаджана, можа, два-тры засталіся з тых часоў, а пасля падсаджвалі.

Вось я не ведаю, біскуп Ян – чый пазашлюбны сын? Бацькам быў кароль Жыгімонт Стары, а хто маці? Можа, Бона Сфорца да таго, як стала афіцыйнай каралевай? Чаму яна сюды з ахвотай ехала?

Цікавае супадзенне. Гаштальд становіцца канцлерам у 1522 годзе. У гэты ж год выходзіць друкаваная кніга "Малая падарожная кніжыца". Такія здарэнні не бываюць выпадковымі. А ў 1530-м Скарына едзе ў Прусію ў Каралевец, цяпер Кёнігсберг, да герцага, які быў сваяком польскага караля. Нашто яму было трэба адтуль везці ў Вільню друкара-яўрэя і лекара, выклікаўшы гнеў у Каралеўцы?

У 1529 годзе Статут быў гатовы, трэба было друкаваць. З "Малой падарожнай кніжыцай" і "Апосталам" Скарына справіўся адзін. А з першай Канстытуцыяй было цяжэй. Можа, таму, што ў Вільні згарэла друкарня, бо якраз быў пажар.

Успамінаю 1990 год, калі дзякуючы міністру замежных спраў Краўчанку паехалі і ў Вільню, і ў Прагу, і Падую, і Нью-Ёрк. Сустракаліся тады і з нашчадкам з Канады Стэнлем Скарынам. Быў яшчэ бадзёры, так вытанцоўваў са сваёй маладой жонкай. Першы і апошні раз я выступаў у ААН з дакладам на англійскай мове, усё ж жыццё ў мяне была першай замежнай нямецкая. Пасля была вечарына з беларускай "Белавежскай". Усім спадабалася.

Не ведаю, ці жывы цяпер Стэнлі Скарына. І ў Мексіцы жыву адзін Францішак Скарына, мы перапісваліся, але ён ужо памёр.

### Загадкавая знакамітасць, чые продкі паходзяць з Варнянаў

Галоўная тут кніга – "Сузор'е беларускага памежжа". І часам кажуць – а чаму няма таго і таго ў ёй. І так каля 800 заявак сабралася. Другое выданне павінна быць у двух тамах, і трэба было б даць каляровыя ілюстрацыі. Гэта залежыць ад аднаго чалавека, які жыве ў Маскве, і карані якога ідуць у Варняны. А пра радаслоўную сваю ён жа не ведае. Пакуль яго імя не раскрываю, але асоба вядомая.

У 17-18 стагоддзі яго продкі прыехалі сюды.

**У 18 стагоддзі Варняны шумелі на ўвесь свет: першае тыпавое сельскае будаўніцтва. Хіба ў той час недзе ў Еўропе будавалі дамкі для сялян?**

Аднавіць драўляны палац не так і складана, таму што малюнак Напалеона Орды ёсць, толькі грошыкі трэба. І калі той чалавек атрымае гэтыя доказы, то таксама займее і шляхецкае паходжанне.

### Чаму змянілі назву кнігі "Астравеччына – край мой дарагі"

Першай назвай кнігі было "Астравец – свету не канец". Тады хадзіў вершык з такім радком. Маім рэдактарам у "Мастацкай літаратуры" стаў чалавек вельмі асцярожны. Выклікае мяне і кажа, што назву трэба мяняць. Пытаюся, чаму. "А где вы в Советском Союзе видели конец?". Сказаў назваць неяк банальна.

Я ж быў англійскім шпіёнам *(з усмешкай)*. Па-першае, як трапіў у Лондан у 1982 годзе. У аддзеле культуры ЦК загадваў чалавек, які сказаў: "Адам, трэба ехаць на два месяцы ў Лондан па лініі ЮНЭСКА". Год загадалі хадзіць на курсы англійскай мовы пры Акадэміі навук. Праз тры месяцы прыйшла новая "teacher". Аднойчы яна ўстроіла ў сябе гулі і пытаецца ў мяне пра кнігу "Восень пасярод вясны", ці збіраюся яе выдаць у Англіі. Кажу, а хто ж мне там ганарар заплаціць, ужо "Мастацкай літаратуры" аддаў. Ну і задае розныя пытанні, каб выведаць нешта.

**У Лондане ў аэрапорце сустракае айцец Аляксандр Надсан. Узяў нейкую кніжку з маім партрэтам, упэўніўся, што той самы прыехаў.**

Размясцілі мяне. Снедаў звычайна, дзе жыў разам з айцом, абедаў у горадзе, а на вячэру браў прадукты. І прадукты было прыемна браць, таму што там быў такі выбар! І за два-тры дні да зыходу тэрміну прыдатнасці прадавалі за паўцаны.

Айцец Аляксандр кажа, што мне трэба будзе выступіць з дакладам – расказваць пра свае кнігі. І што на маю лекцыю прыляціць з Амерыкі **Антон Адамовіч**, журналіст "Голаса Амерыкі". Я ведаю, што ён працаваў у нямецкай газеце. Але спачатку паехаў пагаварыць пра гэта з чалавекам з савецкага пасольства. Той пытаецца: "А что вас смущает?" – "Ну, хто яго ведае, ён лічыцца ў нас злодзеем, што газету выдаваў у Мінску ў час акупацыі" – "Пусть это его смущает".

### "Какой фокус отмочил в Великобритании"

Я падрыхтаваўся да правакацый, раз нібыта патэнцыйны вораг. На вячэры ён падыходзіць і кажа, што вы мяне ворагам лічыце, і Глебка лічыў ад пачатку, калі быў у Нью-Ёрку. Адказваю, што ёсць факт – ён працаваў у нямецкай газеце. Адамовіч гаворыць, што не мог жа хваліць бальшавікоў, яны ў свой час засадзілі ў канцлагер. А выдаючы газету, арыентаваўся на альянтаў, нацыстаў асцерагаўся. Так пасядзелі, разышліся.

Назаўтра гадавіна слуцкага паўстання. Айцец на яе пайшоў, а я і Адамовіч засталіся. Гатую вячэру. За суседнім столікам гатуе Адамовіч. Кажа, чуў, што я выдаю бібліяграфічны даведнік "Беларускія пісьменнікі". "Ну, я ж там буду? Ці ведаеце мае псеўданімы?". Я крыху ведаў, але ён мне пачаў іншыя дыктаваць, а таксама псеўданімы іншых аўтараў – усяго каля 70. Запрасіў яго на чарку "Белавежскай", ён жа мне адкрыццё зрабіў. І раптам ён пабляднеў і рухнуў. Ледзь зацягнуў наверх у ложак.

**І думаю сабе – ну, во папаў. Скажуць, бальшавікі заслалі і расправіліся. Так ноч не спаў.**

І толькі пад абед спускаецца Адамовіч, кажа, што яму так кепска, бо ні кроплі нельга было.

Вярнуўся праз два месяцы, накупляў эміграцкіх кніжак. У Маскве – "А где разрешение? Вот эту книгу можете брать, Янка Купала. А остальные – еще раз приехать с разрешением от Академии". Яшчэ некалькі каштоўных рэдкіх кніг мне прыслалі. Праз нейкі час забралі кнігі ў спецфонд і болей я іх не бачыў. Яго ліквідавалі, я думаў, пайду і забяру – ўжо і след прастыў.

А ў той час ішла барацьба: хто ў ЦК зойме месца сакратара па ідэалогіі Кузьміна: Паўлаў ці Антановіч. У Акадэміі навук я сядзеў у суседнім пакоі з Алесем Адамовічам. Ён параіў схадзіць да Кузьміна, каб даў дазвол на выхад маёй кніжкі.

Потым мне з Гродна звоніць знаёмы, пытаецца: "Ты, Адам, дома яшчэ?" – "Ну, а дзе я павінны быць?" – "Ну, тут жа адзін з аддзела Паўлава выступаў і пачаў са слоў:

**"Вы слышали, какой фокус отмочил в Великобритании ваш землячок Адам Мальдис".**

Ну ясна, што ўжо крыж паставілі. Пайшоў да Кузьміна. Якраз Чарненка ўзыходзіў, ён глядзеў па тэлебачанні: "Он же на ладан дышит, какой толк, что мы его изберем".

Сядаем, ён сам налівае кавы і пачынае мне скардзіцца на Паўлава: "Меня тут объявили троцкистом". Усё ж кнігу дазволілі выпусціць, але пакінулі з прагаламі, засталіся толькі знаходкі.

Можа, трэба будзе выдаваць кніжку цалкам, без гэтых купюр. Таму што там зніклі людзі, і розныя. І на чыіх руках была кроў, я ведаю, што яны займаліся расстрэламі людзей, ім я рукі не падаваў. Але ж не буду з імі ваяваць.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by




Адам Мальдзіс у сваім кабінеце.

УСХОДНІ ГАРАСКОП. ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# Пеўнік за тое, каб усе вы дабіліся поспеху і працвітання

## 28 студзеня ўступае ў свае правы год Чырвонага Вогненнага Пеўня

**Певень шчодры на падарункі, але іх трэба будзе заслужыць сваёй настойлівасцю, напорыстасцю, рашучасцю.**



**ПАЦУК. 1924, 1936, 1948, 1960, 1972, 1984, 1996, 2008**
Вас чакае год насычаны. Не самы просты, але цікавы, у нейкай ступені нават карысны. Крылаты гаспадар вас паважае і абавязкова дапаможа. Вам трэба берагчы сябе, есці вітаміны, не адмаўляцца ад фізічных нагрузак і атрымоўваць як мага больш прыемных эмоцый. Не пераядайце! Калі вам захочацца які стрэс заесці, то памятайце пра гэта, каб пасля не хадзіць па дактарах. І ніякіх даўгавых абавязацельстваў.



**БЫК. 1925, 1937, 1949, 1961, 1973, 1985, 1997, 2009**
Чакайце вялікіх падзей, яркіх эмоцый, новых уражанняў. Толькі не стварайце самі сабе праблем, хоць вы і ўмееце з імі спраўляцца. Беражыце нервовую сістэму, прытрымлівайцеся рэжыму харчавання.Ператамленне, бяссонніца, іншыя "сюрпрызы" ўзнікаюць у арганізме, даведзеным да стрэсу. І не думайце, што само пройдзе. Грошай у год Пеўня хопіць і на запланаваныя пакупкі, і на задавальненні, і на капіталаўкладанні.



**ТЫГР. 1926, 1938, 1950, 1962, 1974, 1986, 1998, 2010**
Певень не сімпатызуе Тыгру. Але пры жаданні агульную мову з гаспадаром года знайсці можна. Добра засвойце, што нішто не даецца дарма, аднак руплівасць, стараннасць і самааддача абавязкова акупяцца. Асабістае жыццё абяцае быць цікавым і насычаным, толькі трэба як мага менш бурчаць і прыдзірацца, акуратна і асцярожна выказваць уласныя эмоцыі і меркаванні. І гэта ў адносінах не толькі другіх палавінак, але і дзяцей, у каго яны ёсць.



**ТРУС. 1927, 1939, 1951, 1963, 1975, 1987, 1999, 2011**
Вы будзеце барацьбітамі, таму што пасіўна мірыцца з цяжкасцямі вы не намераныя. Вас нельга назваць людзьмі гіперактыўнымі, аднак ваша лянота, звычайна ўмераная, у год Пеўня рызыкуе стаць сапраўдным ніянчасцем. Не злоўжывайце шкоднай ядой і алкаголем, бо вынікі могуць аказацца вельмі сур'ёзнымі. Усё гэта залежыць толькі ад вас. Даражыце сям'ёй, для вас яна абяцае стаць ціхай гаванню, дзе можаце хавацца ад жыццёвых праблем.



**ДРАКОН. 1928, 1940, 1952, 1964, 1976, 1988, 2000, 2012**
Усе пачынанні і праекты, якія былі ў год Чырвонай Вогненнай Малпы, плаўна перацякуць у год Пеўня і будуць не менш паспяховымі. Аднак не расслабляйцеся, будзьце пільныя. У год Пеўня вам захочацца здзейсніць нейкі сур'ёзны ўчынак, які зусім зменіць ваша далейшае жыццё. Зоркі толькі даюць параду не кідацца ў крайнасці, а раіцца з блізкімі людзьмі адносна таго ці іншага рашэння, каб пазбегнуць памылак.



**ЗМЯЯ. 1929, 1941, 1953, 1965, 1977, 1989, 2001, 2013**
Для вас наступае самы паспяховы перыяд у жыцці, чакаюць удачныя перамены. І ў гэтым дапаможа Певень, які ва ўсім паспрые. Ён схіляе галаву перад вашай мудрасцю. Таму ўвесь год можна рэалізоўваць усе свае самыя смелыя мары, прыйшоў ваш час. Акрамя таго, сама ваша знешнасць дапаможа вам. Папрацаваць прыйдзецца нямала, а мэтанакіраванасць і рашучасць дапамогуць дасягнуць неверагодных вышынь.



**КОНЬ. 1930, 1942, 1954, 1966, 1978, 1990, 2002, 2014**
Год будзе удачны, кар'ера і бізнес могуць узляцець на небывалую вышыню. Вас чакае поспех, матэрыяльнае працвітанне. Вы можаце мяняць месца работы, адкрываць для сябе новыя гарызонты. Важна пры гэтым не забываць сям'ю і не прымаць сур'ёзных рашэнняў толькі пад уплывам эмоцый. Пры пастаяннай актыўнасці і мэтанакіраванасці можаце зрабіць нашмат больш для сваёй будучыні, чым зрабілі за некалькі апошніх гадоў.



**КАЗА. 1931, 1943, 1955, 1967, 1979, 1991, 2003, 2015**
Вас чакае ўдача і заслужанае прызнанне. Певень падрыхтаваў вам шмат прыемных сюрпрызаў. Будзе нямала цікавых знаёмстваў. Шмат якія будуць карысныя ў будучым. Толькі ніякіх капрызаў, легкадумнасці і пустога какецтва. А яшчэ праявіце ўседлівасць і працавітасць, яны не перашкодзяць нікому. Вы і не заўважыце, як новыя думкі і свежыя ідэі напоўняць вашу галаву. Прытрымлівайцеся нармальнага рэжыму харчавання.



**МАЛПА. 1932, 1944, 1956, 1968, 1980, 1992, 2004, 2016**
Год спрыяльны для вас, толькі не трэба ленавацца. Ёсць верагоднасць, што вы станеце кіраўніком нейкага бізнес-праекта, які ў канчатковым выніку прынясе для вас шмат грошай. Год гэты не для адпачынку, а наадварот – для актыўных дзеянняў. Нават рызыка ў меру будзе апраўданая. Вогненны Певень абяцае развіць у вас здольнасць інтуітыўна адчуваць перамену ветру. Год падыходзіць і для таго, каб пачынаць жыццё з чыстага ліста.



**ПЕВЕНЬ. 1933, 1945, 1957, 1969, 1981, 1993, 2005, 2017**
2017 год – гэта ваш год. І гараваць дакладна не прыйдзецца. У вас будзе дастаткова грошай не толькі для камфортнага жыцця, але і для старту ўласнага праекта. Вам даецца магчымасць праявіць свае самыя лепшыя якасці – напор, энергічнасць, палкасць. Галоўнае, не распыляцца па дробязях, а накіроўваць свае сілы ў патрэбнае рэчышча. Мяняць работу ў гэты год не варта, вас чакае поспех і працвітанне на цяперашнім месцы.



**САБАКА. 1934, 1946, 1958, 1970, 1982, 1994, 2006, 2018**
Год для вас спрыяльны. Певень абяцае роўнае, гладкае, бесклапотнае жыццё. Вы ў мінулыя гады ўжо шмат зрабілі для сябе, цяпер трэба толькі ўтрымацца на ранейшых пазіцыях. Сваёй працавітасцю, высокай працаздольнасцю настаў час вам заваёўваць вяршыні славы. Не трэба задавольвацца сярэдзінай, прапускаючы іншых наперад. Нікому не навязвайце свайго пункту погляду, бо гэта не прыносіць карысці.



**СВІННЯ. 1935, 1947, 1959, 1971, 1983, 1995, 2007, 2019**
Для тых, хто займаецца творчасцю, год Пеўня прынясе вядомасць і пазнавальнасць. І ўсім падкіне шмат магчымасцяў. Прасоўванне па кар'ернай лесвіцы, добры заробак. У любоўнай сферы будуць адны радасці. Многіх наведае бусел. Тады работа адыдзе на другі план, сілы будуць сканцэнтраваны на ўласным жыцці. Ваша радня будзе насіць вас літаральна на руках – вы мудрыя і прагматычныя і на вас можна паспадзявацца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

# Прызначылі дырэктара Вілейскага краязнаўчага музея

ВІЛЕЙКА

Ад 26 снежня дырэктарам краязнаўчага музея працуе **Надзея Аўдзей**.



Надзея – віляйчанка. Яна вучылася ў гарадской школе №3.

Скончыла завочна аддзяленне Дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

У музеі была навуковым супрацоўнікам. Аўтар і суаўтар шэрагу музейных праектаў, арганізатар выстаў.

Былы дырэктар **Сяргей Ганчар** працуе галоўным рэдактарам вілейскай раённай газеты. Яго абавязкі да прызначэння Надзеі Аўдзей выконвала **Алена Стрэж**.

Пра гэта расказалі ў краязнаўчым музеі ў Вілейцы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Ля вілейскага каледжа ўстанавілі лаўку "Джэнтльмен-Ліхтар"

ВІЛЕЙКА

Алею лавак на тэрыторыі вілейскага каледжа ўпрыгожыў новы аб'ект – лаўка "Джэнтльмен-Ліхтар".

Пад жалезным парасонам, які ліхтар "трымае" над лаўкай, могуць схавацца ад дажджу навучэнцы і выкладчыкі каледжа, а таксама выпадковыя прахожыя.

Новую лаўку зрабілі і ўстанавілі навучэнцы. Хлопцы вучацца на зваршчыкаў і электрыкаў. А дапамаглі ім майстры вытворчага навучання **Аляксандр Русак** і **Аляксандр Сільвановіч**.

Па словах намесніка дырэктара па вытворчым навучанні **Сяргея Кавалёнка**, гэту сімвалічную лаўку хлопцы пакінуць каледжу на памяць пра сваю вучобу. Такім чынам навучэнцы не толькі ўдасканалілі свае прафесійныя навыкі, а яшчэ зрабілі цікавы арт-аб'ект.

На тэрыторыі каледжа ўжо ёсць "Музычная лаўка", "Лаўка для закаханых", "Згубленая трохвуголка Напалеона" і "Астралагічная лаўка".

Па словах педагога-арганізатара каледжа **Святланы Мацукевіч**, алею з лаўкамі ўпадабалі маладыя мамы з дзецьмі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Праверылі "Свір-агра": рэсурсы прастойваюць, дзяржпадтрымку скарысталі неэфектыўна

МЯДЗЕЛ

Маладзечанскі міжрайкамітэт дзяржкантролю падчас праверкі ААТ "Свір-агра" знайшоў факты неэфектыўнага выкарыстання дзяржаўнай падтрымкі, парушэнні заканадаўства аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасці, скажэнне дадзеных дзяржсправаздачнасці.

Па дзяржаўнай комплекснай праграме развіцця бульбаводства, агародніцтва і пладаводства ад 2012 года на будаўніцтва бульбасховішча накіравалі больш за 620 тысяч рублёў. Але яно гатова на 70%.

Пры гэтым відаць тэндэнцыя зніжэння валавога збору бульбы. Гэта ставіць пад пытанне мэтазгоднасць пабудовы бульбасховішча. Эфектыўны продаж прадукцыі не наладжаны. Палова ўраджаю 2015 года скормленая жывёле.

Пазалетась "Свір-агра" не выканаў абавязацельства па пастаўцы 260 тон насення рапсу для дзяржаўных патрэб. Ад 273 тон ураджаю 26 прадалі камерцыйнай структуры, а 62 тоны скарысталі на корм жывёле. Пры гэтым 90% прадукцыі дзяржава аплаціла загадзя.

Таварыства не прымае мер, каб прыцягнуць у гаспадарчы абарот нявыкарыстаныя рэсурсы. 14 год прастойвае комплекс будынкаў спіртзавода і будынкі майстэрняў у вёсцы Камарова. Шэсць год не выкарыстоўвалі будынак клуба ў Засвіры, два гады – свінарнік "Нарэйшы".

Па выніках праверкі міжрайкамітэт аштрафаваў "Свір-агра" на 4830 рублёў, тры службовыя асобы – на 504 рублі. Матэрыялы праверкі накіравалі ў праваахоўныя органы і Мядзельскі райвыканкам.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

## Бацькоўскім камітэтам забаранілі збіраць грошы

ВІЛЕЙКА

**Ад 20 студзеня, згодна з пастановай Мінадукацыі №126, бацькоўскім камітэтам афіцыйна забаранілі збіраць грошы ў школах і дзіцячых садках.**

Цяпер усе сродкі на патрэбы школы будуць збіраць апякунскія рады. Пры гэтым удакладнілі: у бацькоўскіх камітэтаў афіцыйна ніколі не было гэтага права. Да таго ж бацькі не павінны аддаваць наяўныя грошы ў рукі апякунскай рады. Усе сродкі пералічваюцца на рахунак школы, гімназіі, дзіцячага садка.

Намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама **Ірына Лобан** карэспандэнтам нашай газеты сітуацыю пракаментавала так:

– Для школ і садкоў Вілейшчыны нічога не зменіцца. Яшчэ да гэтай пастановы Міністэрства адукацыі грошы ў Вілейскім раёне збіралі апякунскія рады.

Па словах намесніка начальніка, кожная школа і садок у Вілейцы маюць свой рахунак. На яго ў ашчаднай касе бацькі пералічваюць грошы. Пасля ў школу ці садок трэба прынесці квітанцыю. Можна плаціць штомесячна, можна заплаціць на некалькі месяцаў наперад.

Не радзей, чым раз у паўгоддзе, прадстаўнікі апякунскай рады праводзяць сход. У вілейскай гімназіі "Логас" распавялі, што ў іх такі сход адбыўся ў лістападзе мінулага года, наступны запланавалі на май.

На кожным сходзе даюць справаздачу пра паступленне і расходаванне грошай, якія бацькі 1-11 класаў сабралі за паўгоддзе. Апякунскія рады павінны дбаць пра матэрыяльна-тэхнічную базу ў школе, паляпшэнне ўмоў працы для настаўнікаў.

Што ж у такім разе робяць бацькоўскія камітэты? У іх, згодна з палажэннем, і не было функцыі збіраць грошы з бацькоў. Толькі кансультацыі, дапамога, узаемадзеянне.

Прадстаўнікі бацькоўскага камітэта кансультуюць іншых бацькоў, дзеляцца лепшым досведам сямейнага выхавання.

Яны таксама павінны дапамагаць педагогам праводзіць спартыўныя спаборніцтвы, забаўляльныя мерапрыемствы ў класах. Сумесна з настаўнікамі праводзяць прафілактыку правапарушэнняў. Напрыклад, ажыццяўляюць бацькоўска-настаўніцкі патруль у час вячэрніх дыскатэк.

І яшчэ адно адрозненне. У склад бацькоўскага камітэта ўваходзяць толькі бацькі або законныя прадстаўнікі вучняў – па адным чалавеку ад класа. А апякунская рада школы складаецца як з бацькоў, так і з настаўнікаў, прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Як на Вілейшчыне працуе Фонд міру

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

**У канцы мінулага года ў Мінску правялі канферэнцыю беларускага Фонду міру.**

Тут падвялі вынікі працы і ўзнагародзілі найбольш актыўных сяброў арганізацыі. Сярод узнагароджаных – жыхар Чысці, аўтар "Рэгіянальнай газеты" **Алесь Раткевіч.**

Фонд міру – адна з найстарэйшых грамадскіх арганізацый. Яна мае свае філіі ў раёнах і шмат робіць для захавання гістарычнай памяці.

На Вілейшчыне дзякуючы падтрымцы фонду аднавілі брацкую магілу ў Сакалоўцы. Упарадкавалі месца, дзе ў 1943 годзе фашысты спалілі вёску Боркі.

На грошы мясцовых жыхароў у Новай Гуце адкрылі помнік у гонар загінулых аднавяскоўцаў. Дзякуючы фонду ўшанавалі памяць былога жыхара Батурына, пісьменніка, супрацоўніка радыё "Свабода" Пётры Сыча. Цяпер у яго родным вёсцы вісіць мемарыяльная дошка.

– Цяжка пералічыць усіх, хто далучаўся да нашых акцый, – распавядае Алесь Раткевіч. – Гэта і дарослыя жыхары вёсак, і вучні пад кіраўніцтвам настаўнікаў, работнікі прадпрыемстваў і сельсаветаў. Адны дапамагалі на суботніках, другія выраблялі мемарыяльныя дошкі, трэція дапамаглі будаўнічымі матэрыяламі.

Усё гэта, па словах Алеся Раткевіча, было на валанцёрскіх пачатках.

Аксана ЯРАШОНАК.



У магазіне "Мара" вы знойдзеце мэблю па прыемных цэнах і добрай якасці. Фота progres.gomel.by

# Дырэктар мэблевай крамы "Мара":

## "Свет становіцца аднаразовым, усё стараюцца набыць за бясцэнак"

**Цяпер вытворчасць мэблі ператварылася ў сапраўднае мастацтва. Яна можа падкрэсліць статус, сказаць пра густ і дабрабыт свайго ўладальніка.**

Разнастайныя матэрыялы, пачынаючы ад традыцыйнай драўніны і заканчваючы шклом і металам, даюць багатую глебу для творчасці самаму патрабавальнаму кліенту.

Аднак ці выкарыстоўваюць усе гэтыя магчымасці маладзечанцы, калі выбіраюць мэблю? Сваім досведам на гэты конт падзяліўся дырэктар мэблевай крамы "Мара" **Уладзімір Раманоўскі**.

### Танна і стандартна – выбар сучасных пакупнікоў

– Калі раней пакупнікі больш руплівa ставіліся да выбару мэблі, то пачынаючы з 2008 года павяліўся попыт на больш бюджэтную, – расказвае кіраўнік. – Людзі хочуць, каб мэбля была прыгожая, надзейная, але ў першую чаргу танная. 2014 год яшчэ раз падмацаваў гэту думку. Я не кажу пра тое, што няма людзей з дастаткам, якія шукаюць адметную мэблю, якая б падкрэсліла дастатак і густ уладальніка. Але агульны вобраз пакупніка – чалавек, які прытрымліваецца меркавання "чым танней, тым лепей". Таму попытам карыстаецца мэбля стандартных памераў, цана на яе меншая. Узнікае адчуванне, што свет становіцца аднаразовым. Набыў за бясцэнак, пакарыстаўся некаторы час і выкінуў.

У такіх умовах і мэблевая крама перагледзела сваю палітыку. З'явілася мэбля з Белгарада. Яна мае сціплы, але не менш сучасны дызайн. У наяўнасці ёсць варыянты з камбінаванымі фасадамі: унізе – цёмны, уверсе – светлы, устаўкамі шкла на дзвярах. Таксама розную тэкстуру матэрыялаў: глянцавыя і матавыя фасады. Але самае прыцягальнае ў мэблі з Расіі – цана. Кухню стандартных памераў можна купіць за 400 рублёў.

– Мы вымушаны шукаць вытворцаў мэблі, якія прапануюць "салодкую" цану, – адзначае Уладзімір Раманоўскі. – Аднак перш чым працаваць з пэўнай кампаніяй, рашаючым будзе, наколькі якасную і надзейную прадукцыю прапануе вытворца. Шырпатрэбам гандляваць – гэта не пра нас. Мы выбіраем толькі надзейных партнёраў, адзін з іх – гомельская мэблевая фабрыка "Праграс".

### Лепш спрацаваць у шкоду сабе, але задаволіць кліента

Дырэктар "Мары" глыбока ўпэўнены ў тым, калі адзін раз пакупнік набудзе няякасную рэч, другі раз ні ў якім разе не вернецца. Таму калі трапілася бракаваная рэч, вы можаце звярнуцца ў магазін, яе адразу ж памяняюць.

– Лепш спрацаваць у шкоду сабе, чым пакінуць кліента незадаволеным, – заўважае Уладзімір Раманоўскі. – Затое і сумленне, і імідж будуць у парадку. Гэты прынцып, напэўна, і дапамог магазіну пратрымацца напляву 30 гадоў. Людзі ведаюць, што ў нас нядорага, што цябе не адфутболяць, калі ўзніклі пытанні. Узнікнуць непаразуменні – вернем грошы. Для людзей вельмі важна адчуваць сябе ўпэўнена.

**Аднак і бракаванай прадукцыі адзінкі. Летась па корпуснай мэблі быў 1% браку, па мяккай мэблі – 0,3%. Гэта прыблізна два выпадкі на год.**

### Зэканоміў на мэблі – аддасі больш на лекі

– Адным са спосабаў, якім эканомяць на мэблі, з'яўляецца перацяжка, – дзеліцца досведам Уладзімір Анатольевіч. – Магу сказаць толькі адно ў гэтым выпадку – зэканоміўшы 30 капеек, на здароўе і на лекі можна ў будучым патраціць значна болей.

Справа ў тым, калі набываеце мэблю ў магазіне, вы можаце быць упэўненыя, што яна мае сертыфікаты якасці, адпавядае дзяржаўным стандартам. Перад тым, як трапіць у магазіны, праходзіць шэраг іспытаў. Перацягваючы старую мэблю, чалавек набывае ката ў мяшку, бо не ведае дакладна, якія матэрыялы выкарыстоўвае спецыяліст.

– Так пенапаліўрэтан, які выкарыстоўваюць для мяккай мэблі, мае розную шчыльнасць, – расказвае дырэктар "Мары". – Чым яна вышэйшая, тым больш зручнай будзе мэбля. Матэрыял з высокай шчыльнасцю выдатна захавае форму, застанецца пругкім. Чалавеку на ім будзе вельмі камфортна, бо ён анатамічна падстройваецца пад контуры цела, але пры гэтым на мэблі не будзе ямін ад працяглага карыстання. Перацягваючы мэблю, вы дакладна не ведаеце, які матэрыял унутры. Гэта зможа паказаць толькі час.

Таксама пліты ДСП маюць розныя класы эмісіі фармальдэгіду. Іх трэба прымяняць у пэўных выпадках. Якая пліта ў вашай перацягнутай канапе, вы таксама не можаце быць упэўненыя.

Таму спецыяліст раіць не гнацца за танным, лепш прыглядзецца да мэблі праверанага вытворцы.

**У наступным нумары:**
Чаму маладзечанцы ўсё жыццё праводзяць на канапах і чым гэта шкодна.

# 1907: першы цягнік з Вілейкі ў Маладзечна

**110 год таму праз Вілейку пралягла Сядлецка-Пецярбургская чыгунка, пабудаваны вакзал.**

1 студзеня 1907 года ў павятовым горадзе Вілейка адбылося ўрачыстае адкрыццё чыгуначнай станцыі. У гэты дзень паравоз з некалькімі вагонамі даў пранізлівы гудок і зрабіў тут прыпынак.

Уздоўж усяго перона стаяў вялікі натоўп – гараджане і сяляне навакольных вёсак, дзеці абляпілі дрэвы, а наперадзе – павятовае начальства. Іграў духавы аркестр. У цэрквах, Свята-Марыінскай і Свята-Георгіеўскай, з такога выпадку былі наладжаныя святочныя малебны. Усе з вялікай радасцю і нецярпеннем чакалі першы пасажырскі цягнік. Пастаяўшы некалькі хвілін, цягнік мякка-мякка крануўся ў напрамку Маладзечна да станцыі Сядлец.




Са збору Уладзіміра ЛІХАДЗЕДАВА.

Вакзал у Вілейцы часоў Першай сусветнай вайны.

Пачыналася новая старонка ў гісторыі горада і жыцці віляйчан.

Канец XIX – пачатак XX стагоддзя былі часам, калі ў свеце навісла пагроза сусветнай вайны, якая ў выніку і пачалася летам 1914 года. Упершыню ідэя будаўніцтва чыгуначнай лініі Балагое – Полацк – Сядлец была абгаворана падчас сустрэчы кіраўніцтва генеральных штабоў Расіі і Францыі ў лютым 1901 года. 5 лютага 1902 года быў зацверджаны канчатковы маршрут будучай лініі.

На ўчастку ад Балагое да Полацка яна амаль поўнасцю праходзіла па неабжытых тэрыторыях густых лясоў. Кіраўніком будаўнічых работ на гэтым участку (450 вёрст) быў прызначаны Аляксандр Рыжоў, які дэталёва даследаваў мясціны, па якіх мелася прайсці чыгунка. Участкам Полацк – Сядлец (590 вёрст) кіраваў Уладзімір Цімафееў-Расоўскі. Згодна з зацверджаным у першы дзень сакавіка 1902 года Палажэннем, чыгунка Балагое – Сядлец павінна была цалкам задавальняць патрэбы Ваеннага ведамства. На ўсім сваім працягу яна павінна была мець пад два пуці апоры мастоў і земляное палатно, на выпадак рэзкага павялічэння транспартных патокаў. Былі запланаваны дадатковыя пуці і стрэлкі, цёплыя баракі для салдат, стайні з вадой для коней, пагрузачныя пляцоўкі, пункты харчавання і лазні на станцыях III класа.

Рэгулярны рух па чыгунцы адкрыўся ў студзені 1907 года. Чыгунка прайшла праз Полацк, Вілейку, Маладзечна, Ліду, Масты, з адгалінаваннем ад Мастоў у бок Гродна.

Жывая нязменная гісторыя Вілейкі – чыгуначны вакзал, адзін з самых старых будынкаў горада, быў пабудаваны ў 1906 годзе. Вакзалы на той час узводзілі па некалькіх тыпавых праектах і ў адзіным архітэктурным стылі.



Фота забяспечана Вольгай КОЛАСАВАЙ.

23 снежня 1915 года ў чаканні прыезду імператара Мікалая II.

Па ступені аснашчанасці і стратэгічнай значнасці станцыі падзяляліся на класы. Станцыя ў Вілейцы не мела дэпо, таму аднасілася да III класа. Усе вакзалы, або, як раней іх называлі, пасажырскія будынкі на буйных, асноўных станцыях III класа на лініі Балагое – Полацк – Сядлец, узводзіліся з цэглы і былі пабудаваныя да 1907 года. Многія з іх захаваліся да нашых дзён і маюць знешняе падабенства.

Станцыя Вілейка ўяўляла сабой цэласны архітэктурны ансамбль: вакзал з буфетам плошчай 75,03 кв. сажні, пасажырская платформа, воданапорная вежа, службовыя і гаспадарчыя збудаванні. Пры набліжэнні да станцыі, першай вачам адкрываўся верх воданапорнай вежы, або як тады ў дакументах "водоёмное здание". Такія вежы будаваліся праз 20 кіламетраў, бо прыкладна такую адлегласць мог прайсці паравоз без дазапраўкі вадой. У вялізны бак ваду напампоўвалі з Віліі. Недалёка ад берага знаходзілася помпавая станцыя, гэты прыгожы будынак з чырвонай цэглы, ажурнымі арнаментамі і ліштвай захаваўся да нашых дзён.

Пасля вызвалення Вілейкі ў верасні 1915 года на чыгуначнай станцыі адбыліся дзве важныя падзеі, у якіх прынялі ўдзел прадстаўнікі дынастыі Раманавых. 28 верасня вялікі князь Георгій Міхайлавіч Раманаў ад імя Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Рускай Імператарскай Арміі ўручаў узнагароды салдатам, якія вызначыліся ў баях. А 23 снежня для агляду войск 2-й арміі Заходняга фронту сюды прыбыў і сам Імператар Мікалай II: "…Раніцай цягнік прайшоў Маладзечна і ў палове 10 гадзіны спыніўся ў Вілейцы. Тут знаходзіўся камандуючы 2-й арміяй і ганаровы каравул ад 113-га пяхотнага Старарускага палка. Надвор'е стаяла цёплае, і нават сонца выглянула на гадзіны паўтары. Навокал былі бачныя акопы, магілы і іншыя сляды вераснёўскіх баёў…", – занатаваў імператар у сваім дзённіку.

Час, падзеі і людзі ўнеслі свае карэктывы, змяніўшы знешняе аблічча будынка вакзала і воданапорнай вежы. У 1920-30-я гады, калі тэрыторыя Вілейшчыны, як і ўсёй Заходняй Беларусі, уваходзіла ў склад Польшчы, будынак чыгуначнага вакзала быў значна перабудаваны. З'явіўся другі паверх, або мансардныя памяшканні, дзе доўгі час жылі службоўцы чыгункі. Над галоўнымі ўваходамі з'явіліся стылізаваныя атыкі. Зніклі вокны ў тарцах, саступіўшы месца дзвярам. У такім выглядзе вакзал захаваўся да нашых дзён. Сёння ў будынку вакзала знаходзіцца каса, дзве залы для чакання, службовыя памяшканні.

Пракладка чыгункі ў той час праз тое ці іншае мястэчка вельмі часта карэнным чынам мяняла яго лёс, станавілася моцным штуршком для паскарэння эканамічнага развіцця самога горада і прылеглай тэрыторыі. Пасля будаўніцтва чыгункі Вілейка стала імкліва расці. Чыгунка паспрыяла ажыўленню гандлю, развіццю прамысловых прадпрыемстваў і рамёстваў, з'явіліся новыя прафесіі і рабочыя месцы, што ў сваю чаргу прывяло да росту насельніцтва. І яшчэ. З гэтага вакзала пачыналася падарожжа ў вялікае жыццё віляйчан.

**Вольга КОЛАСАВА,**
**старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея.**

● КАЛЯНДАР

27 СТУДЗЕНЯ

**Міжнародны дзень памяці ахвяр Галакоста.**

28 СТУДЗЕНЯ

**305 гадоў** з дня нараджэння Удальрыка Крыштофа Радзівіла (1712 – 1770), дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, польскага і беларускага паэта, гісторыка. Генерал-лейтэнант войска ВКЛ.

**90 гадоў** назад (1927) у Вільні выйшла газета "Наш голас", орган БСРГ (выдавалася да 28 лютага 1927 г. двойчы на тыдзень).

**1597 год.** Памёр Мікалай Дарагастайскі, дзяржаўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Нарадзіўся каля 1530 года.

29 СТУДЗЕНЯ

**300 гадоў** назад (1717) нарадзіўся Людвік Грынцэвіч, дойлід эпохі позняга барока.

30 СТУДЗЕНЯ

**95 гадоў** з часу заснавання (1922) у Мінску Інстытута беларускай культуры (Інбелкульт), першай у Беларусі шматгаліновай навукова-даследчай установы (у 1929 годзе рэарганізаваны ў Беларускую акадэмію навук, з 1936 года – Акадэмія навук Беларусі, з 1997 года – Нацыянальная акадэмія навук Беларусі).

**1992 год.** Беларусь прынятая ў сябры Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ).

31 СТУДЗЕНЯ



**90 гадоў** з дня нараджэння Барыса Сцяпанава (1927 – 1992), кінарэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**60 гадоў** назад (1957) у Мінску быў заснаваны Беларускі дзяржаўны гісторыка-краязнаўчы музей (з 13 лістапада 1964 года – Дзяржаўны музей БССР, з 1992-га – Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі).

**125 гадоў** з дня нараджэння Алеся Гурло, беларускага празаіка, паэта, перакладчыка.

2 ЛЮТАГА

**295 гадоў** з дня нараджэння Ігната Лапацінскага (1722–1776), беларускага пісьменніка.

**105 гадоў** з дня нараджэння Навума Перкіна (1912–1976), беларускага празаіка, крытыка, літаратуразнаўцы.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Што рабіць, калі вам прыйшоў ліст з падатковай?

**1. Вы атрымалі “ліст шчасця”, але дакладна ведаеце, што нормы Дэкрэта №3 на вас не распаўсюджваюцца, і маеце гэтаму доказы.**

У такім выпадку дастаткова скарыстацца правам прад’явіць у падатковы орган тлумачэнні, якія сведчаць аб адсутнасці ў вас абавязку па выплаце збору. У месячны тэрмін падатковая інспекцыя разгледзіць тлумачэнні і прыме па ім адно з трох рашэнняў: пакіне “ліст шчасця” без зменаў, унясе ў яго змены, анулюе.




**2. Вы атрымалі “ліст шчасця”, але пэўнасці ў тым, што вы – не “дармаед” няма.**

Давядзецца або самому ўважліва вывучаць п. 3 і 5 Дэкрэта, або ісці па кансультацыю да юрыста. Выратавальных для вас нюансаў і тонкасцяў можа быць мноства. Напрыклад, калі просяць заплаціць збор за 2015-2016 гады, дастаткова мець на вашым выхаванні ў сям’і дзіця да 7 гадоў (з 2017 года дзіця пры гэтым яшчэ і не павінна наведваць дзіцячы садок). Магчыма, вы жывяце ў вёсцы (пасёлку) і займаецеся падсобнай гаспадаркай. Дастаткова ўзяць у мясцовай адміністрацыі даведку, якая пацвярджае гэты факт. У рэшце рэшт, цягам каляндарнага года (так званага падатковага перыяду) вы маглі знаходзіцца за мяжой, хварэць, праходзіць вайсковыя зборы.

**3. Вы атрымалі “ліст шчасця”. Ніякіх зачэпак, каб ухіліцца ад выплаты збору, у вас няма. Як і грошай.**

А яшчэ няма жадання лічыць сябе “дармаедам” і мірыцца з дзяржаўным гвалтам над сваёй асобай. Бярыце аркуш паперы, ручку або садзіцеся за камп’ютар і… узор заявы ў падатковую вам у дапамогу. Майце на ўвазе, што лёгкіх перамог не бывае, тым больш, калі вам супрацьстаіць дзяржаўны апарат прымусу. У інтэрнэце на розных сайтах вы зможаце знайсці пакрокавую інфармацыю аб тым, як дзейнічаць у такой сітуацыі.

**4. Вы – той шчаслівец, якога “ліст шчасця” не напаткаў.**

Вы ўпэўненыя, што Дэкрэт парушае канстытуцыйныя правы беларусаў, і жадаеце праявіць салідарнасць з тымі, каго запісалі ў “дармаеды”? Подпіс пад анлайн-петыцыяй аб адмене Дэкрэта, якую можна знайсці на прасторах інтэрнэту, – гэта нескладаны, але хуткі і эфектыўны крок.

**!** **Згодна з нормамі Дэкрэта, усе перыяды пражывання за мяжой, выхавання дзіцяці да 7 гадоў, хвароб і вайсковых збораў складаюцца. Калі ў выніку атрымаецца, што сума такіх перыядаў роўная або большая за 183 дні, вы не абавязаныя плаціць збор.**

У народзе папяровыя паведамленні ад падатковай, у якіх ідзе гаворка пра абавязак заплаціць збор, пачалі называць “лістамі шчасця”. Што рабіць, калі такі знайшоўся і ў вашай скрыні? Аб гэтым “Рэгіянальнай газеце” распавёў барысаўскі праваабаронца Алег МАЦКЕВІЧ.

## Падатковая: працы паболела і з выпраўленнем памылак, і са скаргамі

**Аб тым, як выглядае Дэкрэт №3 і яго выкананне вачыма падатковай, у інтэрв’ю карэспандэнту “РГ” распавёў Сяргей Рымашэўскі, начальнік інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах РБ па Маладзечанскім раёне.**

**– Колькі людзей на Маладзечаншчыне атрымалі паведамленне з падатковай?**

– Назваць статыстыку я не змагу, таму што пасля ўнясення паправак у Дэкрэт тэрмін аплаты збору перанесіцца на 20 лютага. Таму любыя лічбы, якія я цяпер агучу, будуць недастаткова дакладныя, але могуць даць падставу для плётак. Шчыра кажучы, спісы людзей, якім дасылалі паведамленні, не зусім дакладныя, ідзе праца па ануляванні памылкова дасланых. Канкрэтныя лічбы будуць вымалёўвацца, калі пройдзе першы квартал.

**– У слоўніках словы “дармаеды” і “ўтрыманцы” падаюцца як сінонімы. Чаму тады для падатковай важна, каб гучала ўсё ж “утрыманцы”?**

– Для многіх людзей, асабліва тых, хто жыў у Савецкім Саюзе, слова “дармаед” мае негатыўную афарбоўку. А ўтрыманец – гэта і непаўнагадовае дзіця, і хворы чалавек, тут негатыўнай афарбоўкі няма. Таму давайце прытрымлівацца таго слова, якое прапісанае ў законе.

**– Як рэагуюць людзі на атрыманыя лісты?**

– Вельмі па-рознаму. Рэакцыя тых людзей, што жывуць за мяжой, спакойная. Многія даслалі дакументы з ЗША, Германіі, Францыі, іх паведамленні маюць карэктны і ветлівы характар, яны пакідаюць свае кантакты. Шмат негатыву ўзнікае з моладзевага асяродку. Калі казаць па-моладзеваму, пачынаюць “наязджаць”. Але са свайго боку мы таксама можам задаць пытанне студэнтам: вы атрымліваеце бясплатную адукацыю, але пры гэтым вам складана даслаць копію даведкі. Ці гэта нармальна? Хапае тых, хто ставіцца спакойна, але ёсць і тыя, хто закідвае скаргамі. Скаргі часта маюць неканструктыўны характар, іх проста скапіравалі з інтэрнэта. Да іх я стаўлюся скептычна. Але гэта права кожнага чалавека, таму на іх, вядома, будзем адказваць.

**– Чаму так шмат людзей памылкова патрапіла пад Дэкрэт?**

– Спісы людзей нам прыйшлі цэнтралізавана, у маштабах рэспублікі. Яны складаліся на падставе інфармацыі і Фонду сацыяльнай абароны, і страхавых арганізацый, і Міністэрстваў спорту, культуры, ахову здароўя, і творчых саюзаў, і навучальных устаноў. А ўяўляеце, колькі ў нас адных устаноў адукацыі? Дзесьці адбыўся збой ці памылка, і чалавек трапляе ў спіс памылкова.

**– Але абурэнне памылкова далічаных ва ўтрыманстве таксама можна зразумець. Людзі на пустым месцы мусяць выпраўляць памылкі дзяржаўных органаў і ўстаноў…**

– Але пагадзіцеся – патэлефанаваць і даслаць па электроннай пошце дакумент – хіба гэта займае шмат часу? Усё, што ўзнікла вакол гэтага Дэкрэту, – утрыраванне сітуацыі. Падатковая не нясе адказнасці за дакладнасць спісу, а калі глядзець далей, то як можна знайсці канкрэтнага чалавека, з-за памылкі якога нехта трапіў у спіс? Тут трэба праява разумення і талерантнасці і чалавека да дзяржаўных органаў, і дзяржаўных органаў да чалавека. У дадзенай сітуацыі ў інтарэсах таго, хто памылкова атрымаў ліст, звярнуцца да нас і ануляваць яго. Бо калі не зрабіць гэтага цягам 30 дзён, то чалавек аўтаматычна становіцца плацельшчыкам.

**– І як будуць развівацца падзеі далей у гэтым выпадку?**

– Далей ідзе спагнанне збору ў прымусовым парадку. Інфармацыя пойдзе ў судовыя органы, будуць складацца пратаколы. Гэта працэс, які адбываецца пры спагнанні любога іншага плацяжу. Да судоў у нас справы пакуль не даходзілі, і лепей да гэтага не даводзіць. Усё ж збольшага ў нас людзі законапаслухмяныя, таму, як мне падаецца, з разуменнем паставяцца да сітуацыі і будуць плаціць збор. Заўсёды знойдуцца і тыя, хто выступіць супраць, але гэта не тая сфера, дзе ў гэтым плане можна “разгуляцца”.

**– Чаму ў паведамленнях не пазначаны адрас электроннай пошты падатковай? Ці хаця б сам факт, што звярнуцца да вас можна па электронцы?**

– Паведамленні дасылаліся цэнтралізавана, а ў кожным раёне адрас электроннай пошты свой, таму ўсе адрасы немагчыма было падаць. Думаю, гэты момант будзе дапрацаваны. Жыхары Маладзечанскага раёна могуць дасылаць паведамленні на адрас альбо тэлефанаваць па нумарах: 77-28-45 ці 77-12-35.

**– Петыцыі за адмену Дэкрэта звяртаюць увагу на тое, што ён парушае Канстытуцыю і шэраг міжнародных прававых актаў, якія падпісала Беларусь. Як вы гэта пракаментуеце?**

– Дэкрэт не прадугледжвае прымусовай працы грамадзян, а ўводзіць абавязак аплачваць зборы на фінансаванне дзяржаўных расходаў для тых, хто не ўдзельнічае ў іх фінансаванні або ўдзельнічае тэрмінам менш за 183 дні. Вышэйстаячыя органы разглядалі Дэкрэт на канстытуцыйнасць і далі сваю ацэнку. Таму я не лічу, што Дэкрэт нейкім чынам парушае правы грамадзян.

**– А як вы асабіста ставіцеся да Дэкрэта?**

– Такі абавязак павінны быць. Пагадзіцеся, што быць утрыманцам, нават ва ўласнай дзяржаве, – гэта чалавека не ўпрыгожвае. Кожны павінны рабіць унёсак у існаванне дзяржавы, яго бюджэт. Самае цікавае, што многія бізнесоўцы, якія плацяць вялікія падаткі, таксама на баку Дэкрэта. Магчыма, ён у нечым не ідэальны, але ёсць да чаго імкнуцца. Калі нават такія краіны, як Расія, зацікавіліся беларускай практыкай, гэта гаворыць само за сябе.

**– Але калі паглядзець не на Усход, а на Захад, то тая ж Швейцарыя ці Фінляндыя, наадварот, фінансава падтрымліваюць беспрацоўных грамадзян.**

– Але ж мы не плацім такія падаткі, як у Фінляндыі. У многіх краінах падатковая сістэма фарміравалася стагоддзямі. У нас жа яна маладая, ёй усяго 26 гадоў, так, як і нашай незалежнай краіне. Шлях мы прайшлі досыць кароткі, і ён, як мне падаецца, не абцяжарвае людзей.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**




Фота Настассі РОЎДЫ.

Тое, што Дэкрэт "Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства" закранае і мяне, было вялікай нечаканасцю. Ледзь не ўвесь 2015 год я правяла за мяжой – давучвалася апошні семестр ва ўніверсітэце і рыхтавалася да дыплома. Калі прыйшло апавяшчэнне, прыйшлося даказваць, што я сумленная грамадзянка.

# Праверана на сабе: Як мяне запісалі ў "дармаеды"

**Ні для каго не сакрэт, што пачатак новага года для многіх беларусаў пачаўся з ліста ад Міністэрства па падатках і зборах. Прыгожы белы канверт хаваў у сабе апавяшчэнне аб неабходнасці "заплаціць збор на фінансаванне дзяржаўных расходаў за 2015 год".**

Тое, што Дэкрэт "Аб папярэджванні сацыяльнага ўтрыманства" закране і мяне, было вялікай нечаканасцю. Ледзь не ўвесь 2015 год я правяла за мяжой – давучвалася апошні семестр ва ўніверсітэце і рыхтавалася да абароны дыплома. На тэрыторыі Беларусі знаходзілася менш за 183 дні – столькі, каб дэкрэт аб ўтрыманстве не тычыўся мяне. Але ж ліст прыйшоў. Як аказалася пасля – аднагрупнікі-беларусы таксама яго атрымалі. А інтэрнэт увогуле быў перапоўнены аналагічнымі гісторыямі.

Апавяшчэнне дало 30 дзён, каб паказаць падатковай дакументы, якія пацвярджаюць "адсутнасць абавязку плаціць збор".

**Першае пытанне, якое ў мяне ўзнікла: чаму я павінна гэтым займацца? Дзяржаўныя органы залічваюць мяне да ліку "ўтрыманцаў", паколькі кепска апрацавалі інфармацыю і дакументы.**

Значыць, няякасна выканалі сваю працу і ў выніку памылкі даслалі мне апавяшчэнне.

І цяпер я павінна выпраўляць памылку дзяржаўных органаў і даказваць, што я добрасумленная грамадзянка. І некалькі гадзін свайго часу прысвяціць на збор дакументаў, тэлефанаванні, паходы ў падатковую.

Шукаць логіку, якую я страціла ў апавяшчэнні, я вырашыла праз званок у падатковую. Тэлефанавала як звычайная жыхарка рэгіёна, не называючыся журналістам. Таму ні запісу размовы, ні імя-прозвішча суразмоўцаў у мяне няма.

### Размова №1. "Трэба перакласці дыплом з замежнай мовы"

Першая супрацоўніца падатковай, якой я апісала сваю сітуацыю, параіла мне прынесці дакументы, якія пацвярджаюць факт майго навучання ў замежнай ВНУ.

"У вас засталася дамова, заключаная з універсітэтам?" Дамовы няма, бо ўніверсітэт ужо скончаны, дыплом атрыманы. "А ў дыпломе ёсць інфармацыя аб тым, што вы навучаліся на дзённым аддзяленні?". Інфармацыя, вядома, ёсць, але дыплом замежны, і, адпаведна, англамоўны. "Вы можаце прынесці натарыяльна засведчаны пераклад дыплома...", але гэты адказ я не даслухала, паколькі само сабой задалося пытанне: а хто будзе плаціць за пераклад?

У выніку мяне накіравалі да іншай супрацоўніцы.

### Размова №2. "Дакументы можна даслаць па электроннай пошце"

У выніку другой размовы высветлілася, што дыплом перакладаць неабавязкова. Дастаткова паказаць пашпарт з пячаткамі аб перасячэнні дзяржаўнай мяжы. Калі дзён, праведзеных за мяжой, будзе болей за 183, то аплата збору мяне не тычыцца.

Цягам размовы высветлілася, што даслаць сканы пашпарта можна па электроннай пошце. Заўважу, што ў апавяшчэнні пра гэта не было гаворкі, адраса электроннай пошты падатковай таксама. "Вы ў праве падаць у падатковы орган дакументы" – і ні слова аб тым, што падаць можна, не выходзячы з дому, праз інтэрнэт.

**На маё пытанне аб тым, чаму я павінна выпраўляць памылкі дзяржаўных органаў, мне адказалі, што гэта чалавечы фактар.**

Падатковая фарміруе базу "сацыяльных утрыманцаў" на падставе дадзеных з цэнтраў занятасці, пашпартна-візавай службы і іншых устаноў, паўсюль магчымы збоі.

Для чалавека, якога выпадкова запісалі ва "ўтрыманцы", у гэтай сітуацыі шмат нязручнасцяў:

1 сам факт, што на пустым месцы звальваецца з неба абавязак нешта даказваць;

2 патрэба шмат што высвятляць самой, бо не ўся патрэбная інфармацыя змешчаная ў лісце;

3 не заўсёды кампетэнтныя адказы супрацоўнікаў падатковай, на якія часам даводзіцца трапляць.

Ці варты новы збор тых высілкаў – і фінансавых, і маральных, – якія былі на яго затрачаныя і траціцца дагэтуль, – вялікае пытанне, на якое кожны адказвае для сябе самастойна.

Калі вы хочаце расказаць пра тое, як вы атрымалі "лісты шчасця", тэлефануйце ў рэдакцыю па нумары **(80176) 76-96-67** альбо пішыце на электронную пошту regionnews@rh.by. Калі ў вас узніклі пытанні, звяртайцеся – будзем разбірацца разам.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

## Аляксандр Гармаза: пакуль нічога пісаць не трэба, бо рашэння няма

МАЛАДЗЕЧНА

На мінулым тыдні з'явілася інфармацыя пра тое, што **Аляксандр Гармаза** больш не будзе ўзначальваць каманду "Маладзечна ДЮСШ-4".

Мы патэлефанавалі Аляксандру Пятровічу:

– Нічога не трэба пісаць. Са мной яшчэ ніхто не гаварыў. Так, для сябе я такое рашэнне прыняў. Я ўжо не малады, мне цяжка ўвесь сезон працаваць без выхадных. Я стаміўся. Я на сённяшні дзень не ведаю, ні што будзе з камандай, ні хто яе можа ўзначаліць. Я хачу прыходзіць на стадыён, як нармальны заўзятар. Але, паўтаруся, раней за сакавік пісаць пра тое, што Гармаза пакідае пасаду трэнера, не мае ніякага сэнсу. Не хачу пра гэта пакуль гаварыць.

**Наталля ТУР.**

## Астраўчане перамаглі "Ашмяны"

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

"Мядзведзі" са Смаргоні прайгралі ў гасцях "Легендзе-Віцязь". Гульня чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе адбылася ў Іўі 22 студзеня.

Смаргонцы пасля першага тайма прайгравалі 3:7. У другім тайме здолелі вызначыцца толькі аднойчы і прайгралі з лікам 4:10.

У Ашмянах мясцовая каманда прымала астравецкі "Меліяратар". "Ашмяны" саступілі суседзям 4:7. Лепшымі гульцамі сталі: у "Ашмянаў" – **Вадзім Бацяноўскі**, у "Меліяратара" – **Аляксандр Арлоўскі**. Хет-трыкам адзначыўся гулец астраўчан **Андрэй Карпяленя**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Юныя футбалісты перамаглі на вобласці

МАЛАДЗЕЧНА

Каманда Маладзечанскага раёна заняла першае месца ў абласных фінальных спаборніцтвах па міні-футболе сярод юнакоў 2004-2005 гадоў нараджэння. Праходзілі спаборніцтвы ад 20 да 22 студзеня ў Барысаве. Праводзіліся яны ў межах 29-й абласной круглагадовай спартакіяды навучэнцаў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі Мінскай вобласці.

У склад каманды ўвайшлі выхаванцы дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы №4 Маладзечна, трэнер-выкладчык **Ігар Мацюшонак**.

**Па інфармацыі аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.**

# Заўзятарар з Вілейкі прапануе шляхі развіцця футбольнай каманды




**Футбольня каманда з Куранца. Яўген Сабінскі ў цэнтры ў светлых шортах. Фота забяспечанае Яўгенам САБІНСКІМ.**

ВІЛЕЙКА

**Калі чытаеш прапановы па развіцці каманды "Вілія" ад простага заўзятара і футбаліста каманды з Куранца Яўгена Сабінскага, сапраўды пачынаеш верыць, што развіццё каманды – гэта справа яе заўзятараў.**

Яўген, можна сказаць, нарадзіўся футбалістам.

– Мой бацька іграў за каманду з Куранца. Але каманда распалася, калі мне было дзевяць гадоў. А цяпер, калі падрос, з'явілася адчуванне, што магу дапамагчы камандзе. Крыўдна, што футбол не развіваецца.

Для газеты Яўген падрыхтаваў прапановы, дзе выказаў свае меркаванні наконт развіцця футбола.

"Хочаш гуляць у футбол – шукай грошы. Яны вырашаюць многае. Відавочна, у "Віліі" грошай няма. Няма зусім. Што казаць, калі ў пачатку мінулага сезона галоўным мецэнатам каманды стаў звычайны чалавек, які дапамог купіць мячы і буцы. У некаторых гарадах грашовае пытанне вырашаюць з дапамогай прадпрыемстваў. Жодзіну дапамагае "БелАЗ", Салігорску –"Беларуськалій", Гарадзеі – цукровы камбінат.

У Вілейкі быў "Зеніт", камандзе дапамагалі "Буддэталі", пасля прадпрымальнік **Пётр Губіч**, але цяпер спадзявацца на буйныя ўліванні наіўна. Таму збіраць трэба па крупінках. Што хоча спонсар узамен на інвестыцыі? Два варыянты: або аддачы грошай, або славы. Пра зварот грошай казаць не даводзіцца. Нават калі Вілейка праз дзесяць гадоў будзе гуляць у вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі (фантастыка, ці не праўда?), чакаць столькі не захоча ні адзін бізнесмен. Слава? Гэта іншая справа. Але я назваў бы гэта пазнавальнасцю.

На вілейскім стадыёне няма ніводнага рэкламнага шчыта. Ніхто не задумваўся, чаму? Зразумела, што на трыбунах мы не знойдзем патэнцыйных буйных заказчыкаў "Зеніта" або "Буддэталяў". Затое знойдзем тых, хто цікавіцца спортам (вось прапанова для фітнес-клубаў). Тых, хто карыстаецца паслугамі і купляе тавары ў вілейскіх прадпрымальнікаў.

Прадпрымальнікі мяне спытаюць: колькі чалавек наведвае футбол? 200-300? Прыкладна так. Нягуста, адкажуць. Але слухайце: а цяпер той самы час, каб выбіраць? Што ж, значыць, вы вельмі багатыя людзі. Ёсць адзін прыклад: у мінулым годзе ў Куранцы праходзіў турнір "Футбольны Спас", на які мы запрашалі вызначны гандаль. У выніку, вызначны гандаль за нейкія там пару гадзін зарабіў больш за пяць мільёнаў недэнамінаваных рублёў.

Яшчэ пытанне: хтонебудзь бачыў афішы аб тым, што павінны адбыцца матчы ў горадзе? Іх няма. Ні яркіх вялікіх, ні чорна-белых фармату А4. Проста няма. Добра, ёсць сацыяльныя сеткі, дзе заўзятары абмяркоўваюць гульні і ведаюць, калі наступны матч.

Як вырашыць праблему? Размяшчаць аб'явы, афішы па ўсім горадзе, каб людзі ведалі, што нешта грандыёзнае праходзіць на стадыёне. З гэтага ўзнікае пытанне, адкуль браць грошы на друк аб'яў, калі на ўдзел у турніры сабраць грошы цяжка?

Адразу ж адказ – у Вілейцы ёсць некалькі фірмаў, якія аказваюць паслугі друку, капіравання, сканавання. Ёсць друк – ёсць ваша рэклама на стадыёне. І ў сацсетках.

Дапусцім, што рэклама дапамагла, людзі пайшлі на стадыён, што далей? А далей ужо ідзе тэма пра тое, як утрымаць людзей на стадыёне. Футбол як спартыўная з'ява – гэта добра.

Але, паверце, матчы хакейнага "Дынама" на "Мінск-Арэне" збіраюць дзясяткі тысяч людзей не таму. З іх палова паняцця не мае, на якім там месцы знаходзіцца клуб. Людзі ідуць на падзею, на шоу, калі хочацца.

У ідэале: ёсць матч, а ёсць і перапынак. Гэты час для конкурсаў, для розыгрышаў прызоў, для шоу. Хтосьці з заўзятараў удзельнічае ў серыі пенальці, нехта здагадаецца, хто заб'е першы гол у сезоне і атрымаў за гэта прыз або зніжку, а нехта падсілкоўваецца чабурэкамі і асвяжаецца напоямі.

> **– Я ўпэўнены, што калі рэалізаваць хаця б частку ад прапанаванага вышэй, можна ўжо вясной збіраць на стадыёне па 500-700 чалавек.**

Нехта мяне папракне самым галоўным пытаннем: а хто ўсім гэтым будзе займацца? Пытанне, што называецца, пад дых. І ёсць два варыянты.

Першы: на старце павінны дапамагчы мясцовыя ўлады. Яны могуць зарадзіць і гандаль, і з анонсамі матчаў дапамагчы, і з гукавым суправаджэннем. Хоць бы табло паставіць. Калі завесці пускавы рухавік, то і асноўны закруціцца.

Другі варыянт: рабіць усё самім. Каму самім? А ўсім нам. Ёсць у футбольнай гісторыі краіны унікальны прыклад – каманда "Крумкачы". Энтузіязм на першым этапе і народная падтрымка зрабілі сваю справу. Клуб гуляе ў вышэйшай лізе.

Яўген упэўнены, што "Вілія", ды і любая каманда, можа паўтарыць поспех "Крумкачоў".

– Можна, вядома, сядзець на беразе "Віліі" і чакаць, куды цябе вынесе плынь. А можна зрабіць нешта самім.

Даведка "РГ": **Яўген Сабінскі.** Нарадзіўся ў 1999 годзе ў аграгарадку Куранец. З дзяцінства актыўна займаўся спортам: настольным тэнісам, гандболам, футболам. У 2016 годзе скончыў Куранецкую сярэднюю школу. Цяпер студэнт першага курса факультэта фізічнага выхавання БДПУ імя Максіма Танка. Адміністратар заўзятараў ФК "Куранец".

**Наталля ТУР.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. На арабскай мове гэта значыць “пакорнасць”.
2. Дзяржава, армія якой не перавышае сто чалавек.
3. У старажытным Рыме гэта цэнтр палітычнага жыцця.
7. Цела, якое рухаецца па замкнёнай арбіце вакол зоркі.
8. “Si vis pacem, param bellum” з лацінскай мовы – “Хочаш міру, рыхтуйся да …”.
10. Мастак, прафесар, які нарадзіўся ў вёсцы Качаны на Мядзельшчыне. Афармляў кнігі “Пан Тадэвуш” 1985 года, “Новая зямля” 2002 і іншыя.
12. Гэта ён напісаў знакамітую гісторыю, што яблык зваліўся Ньютану на галаву.
14. Від спорту, у якім трэба нанесці саперніку як мага больш уколаў.
16. Без гэтага інгрэдыента не атрымаецца боршч.
19. Там няма гадзіннікаў і празрыстых вокнаў.
23. Круглая драўляная пасудзіна, з якой кармілі жывёлу.
24. Сталіца В’етнама.
26. Спадарожнік Марса.
27. Глыбокае знясіленне арганізма.
28. Назва вострава, дзе ўпершыню бралі плату за стаянку суднаў.
29. Саматробны ткацкі станок.
31. Адзенне гэтага колеру пад назвай Greenery фірма па выпуску колераў для паліграфіі Пантон назвала галоўным колерам 2017 года.
32. Да 19 стагоддзя яго не падзялялі на левы і правы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Першы і апошні кароль літоўскі, бацька Войшалка.
4. Малочная ці мясная традыцыйная беларуская страва.
5. Надзвычай моцны электрычны зарад.
6. Дзякуючы ім алмазы на вялікай хуткасці падымаюцца на зямную паверхню.
9. Нагор’е ў Цэнтральнай Азіі, куды едуць шукаць духоўную гармонію.
11. Дэкаратыўны элемент з тканіны і нітак, які адметны прыгожым ажурным узорам.
13. У гэтай бібліятэцы ў Маладзечне цяпер праходзіць выстава, прысвечаная галівудскім актрысам.
15. Гэтая жывёліна ў жывой прыродзе не можа сустрэцца з белым мядзведзем.
17. Ідзе-ідзе, а з месца не сыдзе.
18. Старажытны акіян, які існаваў у эпоху мезазою паміж старажытнымі кантынентамі Гандвана і Лаўразія.
20. Складаныя эфіры гліцэрыну і тлустых кіслот.
21. Група астравоў.
22. Сталіца гэтай дзяржавы – Туніс.
25. Спінная, верхняя палова панцыру чарапахі.
28. Мяжа паміж асветленай і зацененай паўсферамі на паверхні цела Сонечнай сістэмы.
30. Гэтая жывёла ўпрыгожвае скульптуру пасажыркі на маладзечанскім вакзале.

## Адказы на крыжаванку у №3

**По гарызанталі. 1. Альвеола. 4. Рабінзоны. 5. Радасці. 10. Буцэфал. 13. Гервяты. 14. Касач. 17. Бортніцтва. 18. Ніагара. 21. Медузы.**

**Па вертыкалі. 2. Кава. 3. Косці. 6. Гоні. 7. Барыцэнтр. 8. Абсарбацыя. 9. Лабадзенка. 11. Запальнічка. 12. Радзіма. 15. Каханоўскі. 16. Антыбіётыкі. 17. Балід. 19. Рэчка. 20. Тэтчар. 21. Матылёк. 22. Антанарыву.**



## ГАРАСКОП 27 СТУДЗЕНЯ - 2 ЛЮТАГА



**Авен.** Старайцеся не настройваць сябе на дрэннае, і тады ў вашым жыцці ўсё будзе адбывацца нашмат лепш.



**Цялец.** Ідэі для паляпшэння свайго жыцця, якія з’явяцца, будуць самымі паспяховымі, пастарайцеся не ўпусціць іх, нават калі яны прыйдуць у сне.



**Блізняты.** Будзеце адчуваць лёгкасць, раўнадушныя адносіны да ўсяго, што адбываецца. Менавіта такая пазіцыя, магчымасць даверыцца волі лёсу, дазволіць вам дасягнуць неабходных вынікаў.



**Рак.** Вам трэба праявіць сябе як кіраўнік, сачыць, каб усё было ў парадку, пры гэтым без неабходнасці не ўмешвацца ў працэс. Вялікая верагоднасць таго, што да канца тыдня вы ўсё ж не вытрымаеце і вырашыце ўсё перайначыць, у выніку чаго прыйдзецца выстройваць новыя планы, а многія справы пачынаць спачатку.



**Леў.** Спрыяльны перыяд для ўсяго, што звязана з сям’ёй, і атрымання эмацыйнага задавальнення. Але каб не парушыць ідылію, трэба праявіць мудрасць, чуласць і разуменне тонкіх працэсаў.



**Дзева.** Як бы да вас ні паварочвалася Фартуна, вы ёй проста не пакарыстаецеся, калі ў вас не будзе гарачага жадання нешта рабіць.



**Шалі.** Падзеі гэтых дзён могуць адкрыць новыя гарызонты і поле для дзейнасці, таму будзьце ўважлівыя і гатовыя.



**Скарпіён.** Прыемны перыяд бяздзеяння і адпачынку. Перадышка вам дадзеная для таго, каб набрацца сіл, досведу і ведаў для далейшых дзеянняў. Вас чакаюць перамены, і даволі сур’ёзныя. Але гэта справа не аднаго дня.



**Стралец.** Вы поўныя сіл, і калі гэтыя сілы прымяніць з розумам, то можна было б зрабіць штосьці незвычайнае і грандыёзнае.



**Казярог.** Вам трэба запасціся станоўчымі эмоцыямі і сіламі, бо вас чакае шмат перамен. Кола лёсу можа паварочвацца ў розныя бакі, але ў вас ёсць шанец павярнуць яго так, як вам будзе карысней.



**Вадалей.** Вам захочацца радавацца жыццю, з’явіцца рамантычны настрой. Але жыццёвая сітуацыя накіруе вас у больш прызямленае рэчышча – на матэрыяльны бок жыцця, хаця праявіцца гэта можа па-рознаму.



**Рыбы.** Удзяліце ўвагу сабе, клапаціцеся пра сваё здароўе і прыгажосць.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Хлопец знаёміцца з бацькамі будучай нявесты.

Тата:

– Толя, вып’еце чаго-небудзь?

– Я не п’ю.

– Сумна вам будзе з нашай Насцечкай.

***

21 стагоддзе. Села батарэя ў мабільным тэлефоне. І ўсё. Быў чалавек – і няма чалавека.

***

– Якая ў цябе самаацэнка?

– Ды так сабе... Мы, прынцэсы, народ просты.

***

У маёй дзяўчыны ў ваннай вісяць пяць ручнікоў. Для твару, для цела, для валасоў, для ног. І пяты для чагосьці... Забыўся... А, для мяне!

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | | 8 | 9 | 3 | |
| 6 | | | 1 | | 9 | 5 | | |
| | | | 2 | | | | 6 | |
| 8 | | | | | 3 | | 4 | |
| | | | 8 | | 5 | | | |
| | 2 | | 4 | | | | | 9 |
| | 8 | | | | 1 | | | |
| | | 6 | 9 | | 7 | | | 5 |
| | 5 | 4 | 3 | | | | 8 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 28 студзеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -3 / +1 | | -1 / -2 | | -5 / -3 | | -5 / -5 | |
| | 748 | ↘ 2 | 751 | ↖ 4 | 748 | ↑ 7 | 740 | ↑ 8 |
| Вільня | -1 / 0 | | 0 / 0 | | -2 / -2 | | -3 / -1 | |
| | 757 | ↘ 2 | 758 | ↑ 3 | 754 | ↑ 8 | 746 | ↑ 6 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.06
Захад 17.45
Даўжыня дня 8.39

Усход 9.06
Захад 18.29
Маладзік




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -25,6 °С у 2010 годзе
Максімальная тэмпература +5,2 °С у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 6,6 мм у 2010 годзе
Паводле meteoinfo.by

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Яўгена СУХАВЕРХА.

**Адной з самых абмеркавальных падзей, якая адбылася на мінулым тыдні, стала тое, што гурт NAVI паедзе на "Еўрабачанне" з беларускамоўнай песняй. "Мова Нанова" ў Маладзечне не магла не падтрымаць Арцёма Лук'яненку і Ксенію Жук, якія неаднаразова прыязджалі на заняткі. Удзельнікі падрыхтавалі парады, пажаданні, як выступаць на міжнародным конкурсе, каб атрымаць прызавое месца. А таксама праспявалі песню "Гісторыя майго жыцця". На здымку: Наталля Цар і Аляксандра Парфянюк, удзельнікі курсаў "Мова Нанова".**



## Чытайце праз тыдзень:

● **Гартаем газету 1958 года. Хочаце ведаць, як 60 гадоў таму змагаліся з дармаедамі, самагоншчыкамі, гультаямі? Не паланюйцеся і купіце "Рэгіянальную газету" 3 лютага.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

# Ці могуць сёння школы і дзіцячыя садкі абысціся без бацькоўскіх грошай?



**Ігар Юшко, дырэктар ільянскай школы:**
– Школа зможа. А вось дзеці не змогуць. Школе хапае дзяржаўнага забеспячэння. А грошы на тое, каб дзіця ела, піло і мылася павінныя выдзяляць бацькі. Гэта іх святы абавязак.



**Вольга Воінская, музыкант:**
– Канешне, не. Заўсёды ў школы і садкі збіралі грошы. Гэта абавязак бацькоў. Гэта ж для нашых дзетак. Лепшая мэбля, лепшыя ўмовы. Галоўнае, каб збіралі з улікам магчымасці бацькоў.



**Герман Гіль, навучэнец:**
– Я сам нядаўні школьнік. І мае бацькі плацілі грошы. Аднак лічу, што школа і ўласнымі сіламі зможа існаваць.



**Вольга Байкова, медсястра:**
– Калі хочаш, каб у садку ў дзяцей былі добрыя цацкі і гульні, а ў школе – новая мэбля і сучаснае абсталяванне, то трэба плаціць. Гэта ж сваім дзецям.



**Раіса Караневіч, пенсіянерка:**
– Можа, і змогуць. Але ці будзе ад гэтага добра дзецям. Усе ж грошы, спадзяюся, ідуць на тое, каб у школе або ў садку ім было ўтульна.



**Валянціна Тарасік, у дэкрэтным адпачынку:**
– Я яшчэ далёкая ад такіх пытанняў. Сыну амаль два гадкі, сяджу ў дэкрэтным. Але не буду супраць, калі спатрэбіцца здаваць грошы ў дзіцячы сад. Гэта звычайная практыка. За дзяржаўны кошт не асабліва разгонішся.



**Алег Нікіткоў, пенсіянер:**
– Цяпер наўрад ці змогуць. У савецкія часы неяк абыходзіліся. Але тады добра працавалі многія прадпрыемствы, садкі належалі ім. Я ў маладосці працаваў на адным заводзе. І быў садок для дзяцей работнікаў завода. Прадпрыемства выдзяляла грошы на цацкі і мэблю ў дзіцячыя садкі, нават на навагоднія падарункі. А цяпер усё за кошт бацькоў.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№4 (1135) 27.01.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 82. Падпісана ў друк у 9.00 26.01.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.